17 сакавіка 2017 | № 10 (524)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Цяпер яшчэ і Nordexit**
стар. 8

**4 МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ: МЫ НАЗІРАЕМ НАРАДЖЭННЕ НАЦЫІ**

Пра вулічныя пратэсты, магчымасць Майдану ў Беларусі і пагрозу знешняга ўмяшання разважае “галоўны вулічны баец” краіны



**5 ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ: «ДЛЯ СВАІХ» І ТЭРМІНОВА**

Беларускі ўрад вырашыў правесці прыватызацыю ў краіне па ўласных правілах. Для таго, каб забяспечыць сябе і сваіх сваякоў прыбытковай уласнасцю нават пасля змены рэжыму

**6–7 ЯЎГЕН УСЮКЕВІЧ: КАЛІ Б МЯНЕ СУДЗІЛІ Ў БЕЛАРУСІ, ТО ДАЛІ Б 25 ГАДОЎ**

Пасля лагеру беларускую незалежнасць спадар Яўген ні з кім не абмяркоўваў і са сваімі вайсковымі сябрамі, якія выжылі, не сустракаўся

**11 ПЕРАСАДКА Ў АСІПОВІЧАХ**

Шчырая гутарка з паэткай Настай Кудасавай з нагоды ўганаравання яе прэміяй «Кніга году»



# Халодная вясна 2017-га

**Шэраг маштабных акцый пратэсту пракаціўся ад Оршы да Маладзечна, ад Магілёва да Гомеля**



Алесь КІРКЕВІЧ

Фармальная нагода пратэстаў — абурэнне абсурдным дэкрэтам №3 «аб дармаедах», рэальная — рэзкае пагаршэнне эканамічнага стану, комплекс сацыяльных ды палітычных праблем, якія не вырашаюцца, а толькі нарастаюць дзень за днём.

Спачатку ўлады глядзелі на ўсё гэта скрозь пальцы, пасля — усё больш падазрона, і вось толькі зараз, цягам апошняга тыдня, мы бачым, як у кагосьці не вытрымалі нервы. Арышты лідараў апазіцыі ў Маладзечна ды Оршы, затрыманні журналістаў, збіццё і фактычна выкраданні актывістаў напярэдадні або пасля акцый... Агулам пад каток рэпрэсій трапілі ўжо больш за сотню чалавек.

Вельмі рэзка, пасля працяглай адлігі (прыкладна ад лета 2015-га, калі на волю выйшаў Статкевіч) сітуацыя зноў нагадвае ці тое 2006-ы, ці тое 2010-ы год. Падабенства з выбарамі 2006-га ў тым, што перад акцыямі спецслужбы планамерна палююць на актывістаў, «вымаючы разынкі з булак», як сказаў Лукашэнка. Падабенства з 2010-м у рэзкай змене клімату: ад палітычнага пацяплення да замаразкаў.

Зараз, калі мы ўжо гатовы штодня, адкрываючы сайты незалежных СМІ, бачыць сярод затрыманых новыя знаёмыя прозвішчы, цяжка паверыць, што яшчэ нядаўна Статкевіч праводзіў у спакойным рэжыме Марш 17 лютага, а пасля — у Курапатах два тыдні (!) прастаяў лагер абаронцаў, які дзяржаўныя ідэолагі ўжо параўналі з міні-майданам.

Выглядае, што беларуска-еўрапейскі мосцік, які старанна выбудоўваўся сіламі МЗС, у любы момант можа быць разбураны. Беларусь, зрабіўшы крок наперад, рыхтуецца зрабіць адразу некалькі назад. Пра гэта заявіў і Уладзімір Макей, адзначыўшы, што «крохкі дыялог можа ў любы момант спыніцца».

Што атрымліваецца? Пакуль адны гэты дыялог, які можа прыцягнуць за сабой доўгачаканыя фінансавыя патокі, спрабуюць ураtаваць, сілавікі старанна яго ўтоптваюць у бруд. І гэта пры тым, што Лукашэнка на словах ужо палюбіў ЕС ніяк не менш, чым Саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі гадкоў 17 таму.

Напрошваецца лагічная выснова: дзяржаўная сістэма зараз зусім не маналітная, у ёй прысутнічаюць як празаходнія рэфармісты, так і праўсходнія кансерватары. Першыя ў складанай сітуацыі могуць прыцягнуць з Еўропы фінансы, без якіх увесь «беларускі цуд» складзецца як картачны домік. Другія — робяць выгляд, што са скуры вон лезуць, абы толькі хто не падпаліў гэты картачны домік знутры. Але ці ёсць каму падпальваць?

Згодна прапагандыстам з беларускага ТБ — так, ёсць. Тут і анархісты, і міфічны «Правы сектар», і Статкевіч з «Бастай».

Пры гэтым анархісты, хоць і паказваюць сябе пакуль найбольш яскравай ды арганізаванай пратэстнай групай, не спалілі яшчэ ніводнай машыны, не разбілі ніводнай вітрыны, не збілі ніводнага міліцыянта. Пакуль збіваюць ды ловяць толькі іх саміх.

Байка пра «Правы сектар» — гэта наогул тапорная калька з расійскага ТБ.

Застаецца — Статкевіч ды незадаволеная разлаваная вуліца. Сапраўды, у нейкі момант нават падалося, што «памяркоўных» палітычных лідараў — Губарэвіча, Рымашэўскага, Лябедзькага, Севярынца — прыбралі, кінуўшы на суткі, толькі




Фота Уладзіслава Рубанава

**Пратэст супраць галечы не прыдуманы ў партыйных офісах**

для таго, каб вызваліць поле для аднаго гульца. Статкевіч, відаць, таксама гэта разумее, таму і ўзяў, па яго словах, на сябе ўсю адказнасць за правядзенне акцыі 25 сакавіка, якая будзе найбольшай інтрыгай гэтай вясны. Чым гэта скончыцца, хутка ўбачым.

Нельга не заўважыць, што і ў 2010-м, і ў 2017-м нагнятанне сітуацыі і рэпрэсіі ў Беларусі выгадныя толькі аднаму гульцу — Расіі. І калі сем гадоў таму гэта прывяло да яшчэ больш «цёплых» маскоўскіх абдымак, то зараз можа прывесці і да анексіі, калі сітуацыю ўдасца разгайдаць яшчэ больш.

Але ці маюць рацыю тыя, хто кажа, што ў сучаснай сітуацыі трэба наогул сядзець як мыш пад мятлой і не рыпацца, каб, не дай Божа, нічога не разгайдаць? Наўрад ці. Хаця б таму, што пратэст супраць галечы не прыдуманы ў партыйных офісах. І калі ім не скарыстаецца празаходняя апазіцыя, ёсць верагоднасць, што скарыстаюцца акурат прамаскоўскія сілы, а бел-чырвона-белыя сцягі хутка зменяцца на трыкалоры.

Варта ўсвядоміць, што толькі калі беларусам будзе добра жыць у сваёй краіне, калі яны змогуць у ёй зарабляць грошы, не баяцца нараджаць дзяцей, купляць маёмасць і будаваць бізнес, яны захочуць яе бараніць. У іншым разе — што бараніць? Дзяржаву, якая здзірае праз падаткі апошнюю кашулю? Дзяржаву, дзе міліцыі можна ўсё, а бяспека асобна ўзятага грамадзяніна нічога не вартая?

Ніхто не хоча быць патрыётам катаргі або калоніі. Такім чынам, мір, спакой і незалежнасць наўпрост залежаць ад змены стаўлення дзяржавы да сваіх грамадзян, згортвання і карэкціроўкі працы сілавых органаў, скарачэння чыноўніцкага апарату. Разгойдваць лодку яе пасажыры могуць толькі ў адным выпадку: калі гэта галера і яе крушэнне — адзіны шлях спыніць пакуты. Можа пра гэта зараз і варта задумацца таму, хто ў руля?

# Бунт батанікаў або бунт эліты?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гісторык і экс-палітвязень Зміцер Дрозд прэзентаваў кнігу, заснаваную на турэмных дзённіках.**

«Бунт батанікаў» — грунтоўнае, амаль на 500 старонак выданне, якое ўключае дзённікі, допісы, рэфлексіі, дакументы і фотаздымкі, звязаныя з гісторыяй Зміцера. Ён, гісторык-архівіст ды актывіст «Еўрапейскай Беларусі», быў арыштаваны пасля выбараў 2010 года і адбыў тэрмін спачатку ў СІЗА, пасля — у лагеры. Гэта ўжо шостая кніга Дразда: папярэднія былі гістарычнымі, сёлетняя — дакументальная, заснаваная на асабістым досведзе.

На закрытай прэзентацыі прысутнічала больш за два дзясяткі чалавек: «усе свае». Сярод іх шмат фігурантаў падзеяў 7-гадовай даўніны: Ірына Халіп, Алесь Міхалевіч, Сяргей Казакоў ды іншыя.

«На жаль, не ўсе змаглі прыйсці, — тлумачыць аўтар, — гэта звязана з падзеямі сённяшніх дзён. Некаторыя, як, напрыклад, Макс Вінярскі, стараюцца не «свяціцца» лішні раз, каб пазбегнуць прэвентыўных затрыманняў... Тыраж кнігі невялікі, але ўсе прысутныя абавязкова атрымаюць па асобніку. Застанецца нешта і тым, хто не змог падыйсці па розных прычынах».

Журналістка і фігурантка «справы дзекабрыстаў» Ірына Халіп заўважыла, што гаворка, хутчэй, не пра «бунт батанікаў», але пра «бунт эліты», якая магла б узяць уладу і пачаць кіраванне ў краіне, калі б гісторыя пайшла іншым шляхам.

«Мы, «дзекабрысты», нечым нагадваем старых франтавікоў, — працягвае Халіп, — калі збіраемся разам і пачынаем размову, то ўсё зайжды зводзіцца да «акопаў»: хто з кім сядзеў, хто быў правакатарам, узгадваем нумары камераў і г.д.»

Прагучала таксама думка, што няблага было б кожнаму, хто прайшоў праз рэпрэсіі цягам кіравання Лукашэнкі, ужо зараз пісаць успаміны, каб пасля не атрымалася, што «разам з Леніным бервяно на суботніку несла 5–7–10 чалавек». Так будзе лягчэй адавіць сапраўдны стан рэчаў у нашай найноўшай гісторыі.

# Ці вызваляць Андрэя Бандарэнку?

Міхаіл ПАСТУХОЎ, СЯРГЕЙ ПУЛЬША

**Перавод Міхаіла Жамчужнага ў турму пакуль адкладаецца, а тэрмін зняволення Андрэя Бандарэнкі падыходзіць да канца.**

Міхаіл Пастухоў атрымаў ліст ад заснавальніка праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» Міхаіла Жамчужнага. У лісце ад 8 сакавіка вязень піша, што чакае рашэнняў суда Барысаўскага раёна па чатырох скаргах на спагнанні, вынесеныя яму кіраўніцтвам калоніі №14, дзе палітвязень адбывае пакаранне. З-за неразгляду гэтых скаргаў суд па пераводу Жамчужнага ў турму перанесены на 23 сакавіка. Пакуль скаргі не разгледзяць — у турму яго не адправяць.

Але спакойнага жыцця ў Жамчужнага няма: за тыдзень яго два разы хацелі пасадзіць у штрафны ізалятар, але не атрымалася. Як пенсіянер ён можа не працаваць. Аднак яму «прапанавалі» папрацаваць, і адмаўляцца ад такіх прапаноў вельмі рызыкоўна — гэта могуць расцаніць як нежаданне выпраўляцца.

Жамчужны піша, што сярод асуджаных ён карыстаецца аўтарытэтам. Яму дапамагаюць усёй «зонай», і нават падарылі вязаныя шкарпэткі.

Ад кіраўніка «Платформы» Андрэя Бандарэнкі апошні ліст датаваны 23 лютага. Ён быў адпраўлены з бланкам аб простым паведамленні. Аднак цэнзары яго не прапусцілі, палічыўшы, што ліст павінен адпраўляцца як заказны. Давялося зрабіць новую спробу, і ліст дайшоў.

Бандарэнка піша, што прачытаў у «Народнай Волі» зварот свайго бацькі да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай вызваліць сына. Праўда, надзеі на станоўчы вынік Андрэй не мае. Яшчэ ён піша пра суд, які адбыўся па яго скарзе ў сувязі з паходам у лазню. Тады канвайры яго пакінулі ў калідоры з адным з асуджаных, а самі збеглі па нейкім выкліку. Калі ж вярнуліся, то абвінавацілі Бандарэнку ў парушэнні патрабаванняў: нібыта стаяў не тварам да сцяны і не трымаў рукі за спіной (у руках у Бандарэнкі быў пакунак прыладамі для лазні). За гэта яму вынеслі спагнанне і пазбавілі адзінага за год спаткання з бацькам. Пераканаць суд у мізэрнасці прэтэнзій не ўдалося.

Цікава тое, што 31 сакавіка ў Бандарэнкі заканчваецца тэрмін пакарання. Аднак у той жа час на яго заведзеная крымінальная справа па артыкуле 411 КК за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы». Папярэдні разгляд гэтай справы адбыўся 9 лютага, і суддзя вярнула яе ў пракуратуру на дапрацоўку.

Юрыст Павел Сапелка кажа, што ёсць два варыянты дзеянняў у адносінах да Бандарэнкі. Першы — яго могуць перавесці ў следчы ізалятар, калі яму будзе прызначаная мера стрымання як заключэнне пад варту. І другі — яго могуць вызваліць з калоніі. Які шлях абярэ беларуская пенітэнцыярная сістэма — невядома. Але сам Бандарэнка спадзяецца на лепшае, у тым ліку на шчаслівае вызваленне.

На чарговым пасяджэнні Форуму «Свабоду палітвязням», якое адбылося 10 сакавіка, была прынятая заява «Свабоду Андрэю Бандарэнку і Міхаілу Жамчужнаму!». Яго ўдзельнікі запатрабавалі ад кампетэнтных органаў спыніць крымінальны перaслед Бандарэнкі па 411-м артыкуле, а таксама спыніць цкаванне Міхаіла Жамчужнага і перагледзець законнасць яго асуджэння.

# У ААН занепакоены ўзнаўленнем гвалту

**Спецдакладчык па пытанні аб правах чалавека ў Беларусі Міклаш Харасці распаўсюдзіў адмысловы зварот у сувязі з паведамленнямі аб масавых арыштах і запалохванні актывістаў.**

Спадар Харасці назваў дэкрэт "адвольнай і жорсткай мерай", якая, паводле ацэнак, закранае больш як 470 000 беларусаў. «Гэтыя людзі не толькі носяць ярлык «дармаедаў», але і мусяць сплаціць значную суму ў памеры, эквівалентным 250 доларам ЗША, што складае каля дзвюх трацін сярэдняй заработнай платы ў Беларусі», — сказаў Харасці.

Ён адзначыў, што «ўважліва сочыць» за развіццём сітуацыі, і атрымаў «вартыя даверу» паведамленні аб затрыманні прынамсі 70 чалавек, якія мірна пратэставалі супраць дэкрэта, а таксама 18 журналістаў, якія асвятлялі гэтыя акцыі.

«Я асабліва пільны праз добра вядомую ў мінулым празмерную рэакцыю ўладаў на грамадскія пратэсты. Дэманстрацыі ў 2010 годзе скончыліся масавым гвалтам і адвольнымі арыштамі, якія ў той час прымусілі міжнародную супольнасць стварыць мандат, уладальнікам якога я з'яўляюся на працягу апошніх пяці гадоў. Перыядычнае вяртанне ўладаў да гвалтоўнай рэакцыі робіць сітуацыю досыць напружанай і можа пагражаць яе далейшаму пагаршэнню. Небяспека эскалацыі ўжо часткова матэрыялізавалася, паколькі некалькі лідараў апазіцыі, Анатоль Лябедзька і Віталь Рымашэўскі ў прыватнасці, былі прысуджаныя да арышту тэрмінам на 15 сутак», — падкрэсліў Харасці.

«У той час, як міжнародная супольнасць не мусіць губляць увагу, я заклікаю ўлады Беларусі спыніць акты гвалту і прыгнёту, а таксама паважаць свабоду мірных сходаў», — сказаў Харасці.

Пад заявай таксама падпісаліся іншыя эксперты ААН — старшыня Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Сетонджы Раланд Аджові, спецдакладчык па пытанні аб праве на свабоду мірных сходаў і свабоду асацыяцый Майна Кіяі, спецдакладчык па пытанні аб становішчы праваабаронцаў Мішэль Форст.

Паводле праваабаронцаў, на раніцу 15 сакавіка за ўдзелы ў пратэстных акцыях было затрымана больш за 120 чалавек па ўсёй краіне. Адміністрацыйнымі арыштамі пакарана мінімум 29 з іх, некаторыя — па другім разе. Такой колькасці асуджаных не было ад часоў «маўклівых пратэстаў» 2011 года.

**Паводле spring96.org**

# Дзень Канстытуцыі: затрыманні і суды

Сяргей ПУЛЬША

**Паводле інфармацыі праваабаронцаў, у Дзень Канстытуцыі, 15 сакавіка, агулам па краіне было затрымана больш за 50 чалавек.**

Найбольш брутальныя затрыманні адбыліся ў Мінску пасля дазволенага ўладамі «Маршу недармаедаў», які прайшоў цалкам мірна. На гэтай акцыі група анархістаў закрывала свае твары маскамі, што супярэчыць дзейнаму заканадаўству. Яны былі папярэджаныя пра гэта супрацоўнікамі міліцыі. У той жа час міліцыянты не паспрабавалі «спыніць супрацьпраўныя дзеянні» маладзёнаў.

Падчас маршу ніводны з гэтых маладзёнаў не здзейсніў нічога супрацьпраўнага, апроч таго, што быў у масцы.

Пасля заканчэння акцыі маладыя людзі паспрабавалі з'ехаць у тралейбусе. Але падчас руху транспарту невядомыя ў цывільным, па тыпажы падобныя на пераапранутых супрацоўнікаў міліцыі, спынілі гэты тралейбус, уварваліся туды і сталі затрымліваць усіх запар. Затрыманне было надзвычай гвалтоўным: людзей (у тым ліку непаўналетніх) збівалі, дзяўчат цягнулі проста за валасы, хлопцаў — голымі спінамі па асфальце. Сярод затрыманых былі і звычайныя мінакі, якія ў акцыі не ўдзельнічалі. Сведкі сцвярджаюць, што ў транспарце «людзі ў цывільным» распылілі слезацечны газ, ад чаго пацярпелі пасажыры.

Зранку 16 сакавіка ў суд Цэнтральнага раёна сталіцы прывезлі 24 чалавекі. Яшчэ 11 чалавек апынуліся ў судзе Першамайскага раёна Мінска. У суд Савецкага раёна прывезлі 14 чалавек. Па дадзеных праваабаронцаў, большасці з іх інкрымінуюцца звыклыя артыкулы Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях: 17.1 «Дробнае хуліганства», 23.4 «Непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы», і 23.34 «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў».

У Магілёве міліцыянты затрымалі мінімум 9 чалавек — пераважна тых, хто падчас акцыі пратэсту быў з плакатамі альбо выступаў на мітынгу.

У Гродна адразу пасля акцыі людзі ў цывільным схапілі трох маладых хлопцаў, пасадзілі іх у машыну і звезлі. Мінакам удалося адбіць адну жанчыну, якой нападнікі парвалі куртку.

Вынікі судоў назіральнікаў не ўсцешылі. Суддзя Першамайскага раёна Юрый Гарбатоўскі асудзіў першых абвінавачаных на 15 і 13 сутак адміністрацыйнага арышту. Пры гэтым вёў справу ў прысутнасці сведак-міліцыянтаў, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Яго калега Святлана Чараповіч таксама выпісвала затрыманым адміністрацыйныя арышты.

Прычым «суткі» атрымлівалі тыя, хто да акцыі нават не дайшоў — частка арыштаваных была затрыманая ў падземным пераходзе на станцыі метро «Акадэмія навук». Іх судзілі першымі. Абвінавачванні звыклыя: «Лаяліся матам, на заўвагі супрацоўнікаў міліцыі не рэагавалі».

Аналагічнымі вынікамі закончыліся працэсы ў Савецкім і Цэнтральным судах Мінска. Адзін з асуджаных на 15 сутак, грамадзянін Расіі Павел Маркаў, які стала жыве ў Маскве, а ў Мінску быў праездам і выпадкова апынуўся ў «нешчаслівым» тралейбусе, у залі суда Цэнтральнага раёна абвясціў галадоўку на знак пратэсту супраць незаконнага рашэння. Галадоўку таксама абвесцілa і Алена Дубовік, асуджаная на 12 сутак арышту.

На момант падрыхтоўкі матэрыялу ніводны з абвінавачаных не быў апраўданы альбо пакараны штрафам. Мінскія суды перайшлі ў звычайны рэжым «пасадак» удзельнікаў масавых акцый.

Магілёўскія суддзі былі больш ліберальнымі. Маці чатырох непаўнагадовых дзяцей Алену Крэнь прысудзілі да 10 базавых велічынь штрафу. Штрафамі ў 15 і 25 базавых велічынь пакараныя Алена Кісель і Аляксандр Царук. Але так пашчасціла не ўсім: Ігар Чарак і Алег Мяцеліца таксама выправіліся «на суткі».

У Гродне актывістаў АГП таксама пакаралі арыштамі.

І толькі магілёўскі пенсіянер, ліквідатар-чарнобылец Аляксандар Нажэнка быў папярэджаны за ўдзел у «Маршы недармаедаў».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



Фота www.cdns.yournewswire.com

# Не дапякло?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Эканамічныя паказчыкі працягваюць падзенне. Як казаў Астап Бэндэр, фінансавая прорва — прорва, у якую можна падаць бясконца. Што з гэтым падзеннем рабіць — зразумела, але ці хопіць на гэта палітычнай волі?**

ВУП Беларусі ў студзені-лютым 2017 года знізіўся на 1% да аналагічнага перыяду мінулага года. Аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў студзені-лютым на 3,1%, сельгасвытворчасць за гэты перыяд вырасла на 0,8%. Аднак, нягледзячы на такія станоўчыя паказчыкі, ВУП знізіўся. Чаму? Таму што гэтую прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю ніхто не набывае, і ўкладацца ў прадпрыемствы таксама ніхто не хоча. Рознічны таваразварот знізіўся на 3,7%, інвестыцыі ў асноўны капітал у студзені-лютым упалі на 17,4%.

Падзенне ВУП у 1% за два месяцы — гэта горшы з найгоршых паказчыкаў. Напрыклад, МВФ прагназаваў зніжэнне ВУП Беларусі ў 2017-м на 0,5%, а Сусветны банк — на 1%. Гэтыя прагнозы мы выканалі за два месяцы. Урад Беларусі ўвогуле казаў, што ВУП у Беларусі ў 2017 годзе павінен вырасці на 1,7%, але яму мала хто верыў. Як аказалася — слушна.

Сітуацыю падкошвае неразбярыха ў беларуска-расійскіх стасунках. Як паведамілі «саюзныя» крыніцы, першы намеснік міністра энергетыкі РФ Аляксей Тэкслер абяцаў квоту на нафту для Беларусі ўжо ў другім квартале. Як і ў першым, РБ па нафтаправодах атрымае 4 мільёны тон «стратэгічнага прадукту». Згодна з дамоўленасцямі ў межах ЕАЭС, Сінявокая павінна атрымліваць 24 мільёны тон нафты на год, то бок 6 мільёнаў тон у квартал. Калі такая сітуацыя захаваецца, мы атрымаем толькі 16 мільёнаў тон на год. Што азначае недазагрузку нашых НПЗ, зніжэнне валютнай выручкі — і, адпаведна, пагаршэнне таго самага ВУП.

Эканамічныя праблемы непазбежна адбіваюцца на ўзроўні жыцця. Днямі ў Мінску прайшла цікавая канферэнцыя пад назвай «Беларусь і рэгіён». Яе ўдзельнікі разважалі, чаму ўлада праспала правінцыйныя «маршы недармаедаў». І вымушаныя былі канстатаваць — улады абсалютна адарваліся ад рэальнасці і паняцця не маюць пра тое, што на самай справе адбываецца ў краіне.

Напрыклад, па словах рэдактара крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад» Сяргея Няроўнага, за апошнія дзесяць гадоў у рэгіёне зачыніліся завод напояў, маслазавод, мясакамбінат, стары цэментны завод, які быў гонарам Крычава. Замест яго кітайцы пабудавалі новы, на звязаныя крэдыты, прычым працавалі над ім у асноўным кітайскія рабочыя і інжынеры. Адпаведна, знайсці хоць нейкую працу ў раёне цяжка. Заробак у 300 рублёў лічыцца годным, на вёсцы сезонныя заробкі складаюць 40–60 рублёў.

Праблемы, падобныя на сітуацыю ў Крычаве, перажывае нямала дэпрэсіўных рэгіёнаў Беларусі. Цяжкае матэрыяльнае становішча робіцца прычынай росту ў краіне колькасці крадзяжоў і выпадкаў карупцыі.

«Ёсць адчуванне, што Мінск не вельмі ўяўляе, што дзеецца ў рэгіёнах. Бо рэгіянальнае начальства, зацікаўленае ў захаванні свайго месца, часцяком падманвае вышэйшае кіраўніцтва», — лічыць кіраўнік праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў.

Вырашыць гэтыя праблемы можна толькі адным шляхам — паляпшэннем узроўню жыцця насельніцтва. А зрабіць гэта немагчыма без сапраўднай лібералізацыі эканомікі, рэгулятыўнай сістэмы, можа быць, нават замарожвання на некалькі гадоў любых рэпрэсіўных дзеянняў у дачыненні да эканамічных суб'ектаў.

Аднак пакуль рашэнні ва ўладзе прымаюцца адваротныя. Напрыклад, нашы бізнесоўцы вельмі радаваліся, што пры ўрадзе і з удзелам прадстаўнікоў бізнесу з'явілася група па распрацоўцы закона аб дэкрыміналізацыі эканамічных злачынстваў. Але тое, што разумеюць ва ўрадзе, не вельмі разумеюць на месцах. Як заявіў на прэс-канферэнцыі начальнік галоўнага ўпраўлення па эканамічных злачынствах крымінальнай міліцыі МУС Эдуард Нікіцін, міліцыя гатовая зрабіць толькі «касметычныя» праўкі ў крымінальна-эканамічнае заканадаўства. Напрыклад, паменшыць пакаранне паводле артыкула 223 КК Беларусі «Парушэнне правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі». Пры гэтым МУС супраць адмены галоўнага пудзіла для бізнесу — артыкула 234 КК «Ілжэпрадпрымальніцтва». Як адзначыў Нікіцін, тыя, хто стварае «ілжэпрадпрымальніцкія структуры», разумеюць, што парушаюць закон у жаданні атрымаць прыбытак. «Цяжка ўявіць, што будзе, калі мы дэкрыміналізуем гэты склад злачынства», — сказаў Нікіцін.

Што рабіць з палеглай эканомікай, улады не ведаюць, а таму вырашылі пракансультавацца. Як паведамілі інфармагенцтвы, пасля атрымання дадзеных за першы квартал адбудзецца пашыраная справаздача ўрада перад Аляксандрам Лукашэнкам. На гэтую справаздачу будуць запрошаныя больш за 300 чалавек. Большае прадстаўніцтва кіраўнік дзяржавы хоча бачыць з боку вертыкалі ўлады ў рэгіёнах, дырэктараў прадпрыемстваў і арганізацый — людзей, якія бачаць і ведаюць становішча на месцах. Гэткая кансультацыя «самі з сабою».

Канешне, у свеце багата прыкладаў, калі аўтарытарныя і нават дыктатарскія рэжымы змянялі эканоміку ад занядбання да квітнення. Але дзеля гэтага яны не праводзілі агульны збор кіраўнікоў прадпрыемстваў — яны проста браліся за эканамічныя рэформы.

Канешне, пасля тых рэформаў аўтарытарная ўлада, як правіла, змянялася на дэмакратычную, бо немагчыма быць вольным у адной сферы і заціснутым у іншай. Але змянялася яна ціха, спакойна, без выбухаў і зрухаў. І потым яна, гэтая зменевая ўлада, на пенсіі мірна пісала мемуары кшталту «Як я спачатку развaліў, а потым выратаваў краіну».

Падобна на тое, што наша ўлада небяспеку сацыяльнага выбуху пакуль недаацэньвае. Але калі рване, будзе ўжо позна.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Леанід Кулакоў



**Актывіст нацыянальнага руху дамогся выбачэнняў ад рэдактара газеты Адміністрацыі прэзідэнта «СБ. Беларусь сегодня» Паўла Якубовіча.**

Шчыра кажучы, у інцыдэнце Якубровіч не вінаваты. Леанід Кулакоў спрабуе абскардзіць свой адміністрацыйны арышт на трое сутак у дзень парламенцкіх выбараў 11 верасня 2016 года. Ён быў назіральнікам ад кампаніі «Права выбару» па 108 Каліноўскай выбарчай акрузе.

Пасля закрыцця выбарчага ўчастку Кулакоў сеў на лаву пад'есці. Але яго затрымалі міліцыянты, праверылі на ўжыванне алкаголю, — прыбор паказаў «нуль». Тым не менш, на сайце ГУУС з'явіўся матэрыял, што ў крыві Кулакова было 1 праміле алкаголю. У хуткім часе ў «СБ» выйшла публікацыя «Кепская гісторыя», дзе пераказваецца гісторыя з алкаголем. Судзілі ж Кулакова па артыкуле 23.4 «Супраціў міліцыі».

«Якубовіч прызнаў, што публікацыя на сайце ГУУС была фальсіфікацыяй. Згадзіўся, што браць інфармацыю без праверкі небяспечна. Была абвешчана вымова журналісту, што пісаў гэтую нататку», — расказаў Кулакоў «Нашай Ніве».

Якубовіч папрасіў за публікацыю прабачэння, а таксама паабяцаў змясціць пісьмовае абвяржэнне.

### Антон Астаповіч



**Старшыня Добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры атрымаў адказ ад КДБ.**

У гэту ўстанову Антон Астаповіч накіраваў запыт наконт ахоўнай зоны месца сталінскага тэрору пад Мінскам.

З адказу вынікае, што ў Камітэце дзяржбяспекі праверылі факт будоўлі ў Курапатах, а матэрыялы праверкі накіравалі ў Генпракуратуру, бо менавіта там сочаць за выкананнем закона «Аб ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў», паведаміў Астаповіч.

«Напісана, што праведзеная праверка, а матэрыялы перададзены ў Генпракуратуру. Калі б праверка не выявіла парушэнняў, матэрыялы ў пракуратуру не накіроўвалі б. Такая рэакцыя падмацоўвае меркаванне, што працэдура аўкцыёну і выдзялення зямлі, падгон межаў ахоўнай зоны пад патрэбы інвестпраекта мелі месца», — лічыць Астаповіч.

На дадзены момант будоўля ля Курапатаў, якая выклікала 15-дзённыя пратэсты актывістаў і мясцовых жыхароў, прыпыненая. Але зямля, на якой яна вялася, па-ранейшаму знаходзіцца па-за ахоўнай зонай. Гэта значыць, што будоўля можа ўзнавіцца.

### Алена Купчына



**Беларусь вылучыла былую намесніцу кіраўніка МЗС, а зараз пастаяннага прадстаўніка краіны пры АБСЕ, пасла Беларусі ў Аўстрыі кандыдатам на пасаду генеральнага сакратара АБСЕ.**

«Гэтае рашэнне прадыктаванае шчырым імкненнем Беларусі ўнесці ўклад ва ўмацаванне АБСЕ ў інтарэсах усіх дзяржаў-удзельніц. У сітуацыі вострых рэгіянальных канфліктаў, росту супярэчнасцяў паміж сусветнымі гульцамі, роля Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе зноў вельмі важная», — заявіў прэс-сакратар МЗС Дзмітрый Міронічык.

Ён адзначыў, што Купчына доўгі час займала пасаду намміністра замежных спраў Беларусі, брала ўдзел у рэалізацыі знешнепалітычнай лініі краіны, накіраванай на ўмацаванне бяспекі і стабільнасці ў Еўропе, наладжванне дыялогу паміж Усходам і Захадам, урэгуляванне крызісных сітуацый у рэгіёне.

Паўнамоцтвы дзейнага генсека АБСЕ італьянца Ламберта Дзаньера заканчваюцца 30 чэрвеня гэтага года. Працэдура абрання новага кіраўніка толькі пачалася: 14 сакавіка ў Вене прайшлі першыя слуханні, у ходзе якіх прэтэндэнты прадставілі пастаянным прадстаўнікам дзяржаў-удзельніц свае прыярытэты.

Цікава, ці не будзе замінаць спадарыні Купчыной тое, што ніводныя з 1994 года выбары ў Беларусі не былі прызнаныя адпаведнымі стандартам той жа АБСЕ?



# Мікалай Статкевіч: Мы назіраем нараджэнне нацыі

Сяргей ПУЛЬША

**Мікола Статкевіч неаднойчы казаў, што атрымаў званне «галоўнага вулічнага байца» не па сваёй волі. Проста больш лідарства «на вуліцы» ніхто не браў. І зразумела, што наконт вулічных пратэстаў мы вырашылі паразмаўляць менавіта з ім. Але размова атрымалася менш «радыкальнай» і значна болей — філасофскай...**

## Майдан у Беларусі немагчымы

***— Зараз усе спрачаюцца: ці магчымы ў Беларусі «Майдан»? Што думаеце вы?***

— У Беларусі Майдан немагчымы, таму што ў нашай мове няма такога слова (смяецца). А падзеі кшталту ўкраінскіх... У нас зусім іншая сітуацыя. У нас няма незалежных электронных масавых медыя, тэлебачання, няма фракцыі апазіцыі ў парламенце, урэшце ў апазіцыі да ўлады не знаходзіцца гарадское кіраўніцтва Мінска. У нас іншая сітуацыя, іншая перадгісторыя, іншая ментальнасць.

Беларусы больш гатовыя да рэформаў, і, мабыць, мы маглі б быць больш паспяховымі ў пабудове прававой дзяржавы, таму што ў нас іншае стаўленне да закона. Гэта звязана з гісторыяй. Ва ўкраінскім грамадстве ў якасці ідэала — гісторыя казацтва. Казакі — мужныя, годныя людзі, але як яны ставіліся да законаў і да чужой маёмасці, вядома. Украіна мае і будзе мець з-за гэтага праблемы. У нас жа — вельмі істотны ўплыў нашай шляхетнай гісторыі, бо вялікі пласт насельніцтва вольных грамадзян, быў сацыяльны ліфт, куды мог трапіць любы чалавек... Шляхта жыла па законах. У нас была прававая дзяржава — не ідэальная, але прававая. У нас усё магло быць значна лепш, каб мы не памыліліся ў сваім выбары ў 1994 годзе.

## Дэкрэт — толькі нагода

***— Акцыі пратэсту здольныя змяніць сітуацыю? Ці не ёсць гэта толькі сродкам «выпускання пары»?***

— Сённяшнія пратэсты сітуацыю ўжо мяняюць, бо яны змяняюць само грамадства. Людзі раптоўна робяцца грамадзянамі. Не проста атрымальнікамі дабротаў ці непрыемнасцяў ад улады, а менавіта грамадзянамі, якія хочуць вырашаць свой лёс, лёс сваіх дзяцей, лёс сваёй краіны. У пэўнай ступені тое, што зараз адбываецца, можна назваць рэвалюцыяй унутранай, духоўнай. Людзі ў запалоханай за столькі год краіне раптам адчуваюць у сабе сілы, годнасць і мужнасць да зменаў. Гэта гістарычны перыяд — мы зараз назіраем нараджэнне беларускай грамадзянскай супольнасці, нараджэнне нацыі. Гэта вялікі час.

Дэкрэт пра дармаедства — толькі нагода, спускавы кручок, штуршок, які дазволіў праявіцца ўсім тым зменам, якія рыхтаваліся ў душах людзей. І не больш.

***— Раней усе казалі, асабліва падчас выбарчых мітынгаў: «Усё вырашыцца ў Мінску». Але, на маю думку, напужала ўладу менавіта правінцыя.***

— Уладу напалохалі настроі людзей. Яна адарвалася ад народу, яна проста не ведала сапраўднага стану рэчаў. І калі следам за Мінскам, за акцыяй 17 лютага, якая дала старт народнаму пратэсту, пачалі масава выходзіць рэгіёны, то, сапраўды, улада напалохалася. Яна раптам убачыла ўсю ступень нянавісці да сябе. Але, на жаль, у краінах аўтарытарных, цэнтралізаваных, пытанне зменаў, безумоўна, вырашаецца ў сталіцы. Таксама безумоўна, што гэтыя змены немагчымыя без падтрымкі рэгіёнаў.

25 сакавіка мы збіраем вялікую акцыю ў Мінску, дзе мы павінны паказаць сілу народа і яго волю да пераменаў, і на наступны дзень, 26-га ў 12.00 заклікаем выходзіць людзей на плошчы сваіх гарадоў па ўсёй Беларусі, каб яны паказалі, што не толькі сталіца пратэстуе, што гэта воля ўсёй Беларусі.

## На плошчы людзей выводзіць улада

***— Улада ўжывае тактыку бізуна і перніка. З аднаго боку — замарозілі выкананне дэкрэту, з іншага — пачалі рэпрэсіі. Ці ўдасца такім чынам сцішыць пратэст?***

— Улады ўсё яшчэ думаюць, што выводзіць людзей на плошчы беларуская дэмакратычная апазіцыя.

Насамрэч, на плошчы людзей выводзіць сама ўлада — сваім хамствам, непавагай да чалавека, карупцыяй, імкненнем усіх запалохаць і ўсіх кантраляваць. А дэмакратычная патрыятычная апазіцыя — прызнамсі, не часткa, — прагназавала такую сітуацыю. Яна рыхтавала магчымасць для людзей, пляцоўку, механізмы для пратэсту. Зараз людзі карыстаюцца гэтым.

Паўтара гады таму, калі я выйшаў з турмы, я пачаў рабіць тое, што назваў «стварэць пляцоўку свабоды ў цэнтры сталіцы». Гэтай пляцоўкай, і іншымі пляцоўкамі ў цэнтрах гарадоў людзі пачалі карыстацца, бо гэта было напрацавана. А крыху меней года таму, на ўстаноўчай сесіі Беларускага нацыянальнага кангрэсу, сярод іншага, было заяўлена: нашая задача — ачоліць і скіраваць сацыяльны пратэст з мэтай прымусу ўладаў да эканамічных і палітычных рэформ. Мы тады гэта прагназавалі, мы ішлі крыху наперадзе. І зараз людзі прынялі нашы механізмы ўздзеяння, нашы лозунгі і нават нашы сцягі.

Што будзе далей? Я думаю, што сітуацыя можа развівацца па-рознаму. Шмат што будзе залежаць ад самой улады. Брутальныя сродкі могуць прывесці да брутальнага яе канца. Калі брутальных сродкаў не будзе, то барацьба зацягнецца. Мы не хочам гвалту, крыві, мы не хочам разбурыць свой дом — мы хочам проста навесці ў ім парадак. І мы мусім дзейнічаць паслядоўна, спакойна, цярпліва, але цвёрда. Адной акцыяй усё не вырашыцца. Калі вырашаць усё адной акцыяй, то мы можам змясці гэтых самазванцаў, мы маем такое права. Дэкларацыю ААН аб правах нацый ніхто не адмяняў.

Але мы разумеем, што можам справакаваць знешняе ўмяшанне. Мы не хацелі б згубіць свой дом. Таму мы мусім дзейнічаць мірна і паслядоўна, і гэта будзе вялікая праца, прыйдзецца выходзіць на вуліцы не адзін раз. Прыйдзецца ціснуць, як удаў, да таго часу, пакуль не пачне разбурацца гэтая хлуслівая і карупцыйная вертыкаль, у тым ліку і вертыкаль сілавая.

Тады можа здарыцца і так, што нам прыцягнуць гэтага кадра ўжо звязаным. Або пакуль ён сам не зразумее, што, каб пазбегнуць такога канца, трэба размаўляць і дамаўляцца. Якім бы гэта малаімаверным зараз не здавалася, але мы гатовыя да перамоў. Не да гульняў лялечнага спектаклю пад назвай «круглы стол», дзе пасадзяць марыянетак і клоўнаў, а сапраўдных сур'ёзных перамоў з тымі, хто прадстаўляе пратэст.

Мы спадзяемся, што тут здаровага сэнсу хопіць, але, на жаль, пакуль што імавернасць гэтага не вельмі высокая.

***— Узнікла занепакоенасць, што пратэсты могуць быць падставай для ўмяшання Расіі. Як прафесійны вайсковец, вы можаце сказаць, ці ёсць глеба для гэтых перасцярогаў?***

— Так, небяспека ёсць, і перасцярогі не лішнія, але сацыяльны пратэст быў бы ўсё роўна. Мы яго спрагназавалі, мы да яго падрыхтаваліся. Але калі б мы не падрыхтаваліся і не ачолілі гэты пратэст — ён бы ўсё роўна быў. Магчыма, у нейкіх іншых формах, і ў яго, магчыма, быў бы іншы лідар. Той, якога паказваюць па пяці з васьмі «сацыяльных» каналаў беларускага тэлебачання.

Калі б Лукашэнка так дбаў пра неўмяшанне Расіі, яму для пачатку трэба было б вярнуць беларусам беларускую інфармацыйную прастору. Я не кажу пра астатняе — гэта проста прыклад. Чалавек, які столькі зрабіў супраць нашай незалежнасці, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, які знішчаў гісторыю, паслядоўна знішчаў мову, чалавек, якога б я назваў у найноўшай гісторыі галоўным ворагам нашай нацыі, зараз раптам пачынае называць нас ледзьве не агентамі Крамля. Хто чый агент?

Мы якраз робім усё вельмі абачліва, прадумана, каб не стварыць пагроз незалежнасці. Бо пагрозы вялікія, і стварыў іх раней сам Лукашэнка.

Пратэст быў бы ўсё роўна, а будучыня Беларусі залежыць ад таго, хто яго ўзначаліць. Зараз яго ўзначальвае патрыятычная апазіцыя, — і гэта галоўная гарантыя таго, што Беларусь застанецца незалежнай.

## Мы сведкі канца сістэмы

***— У 2015 годзе вы казалі, што гэтай уладзе засталося два-тры гады. Вы зараз ад гэтага прагнозу не адмаўляецеся?***

— Не адмаўляюся, таму што зараз мы назіраем сістэмны крызіс улады. Скончыўся рэсурс. Схема, калі краіна ператвораная ў вялікі калгас, калі адзін чалавек мае магчымасць кантраляваць амаль кожнага, — яна шыкоўная для палітычнага кантролю, такое палітычнае шчасце чалавеку, які хворы ўладай! Але гэтая схема скрайне неэфектыўная эканамічна. За шчасце плаціла Расія. Зараз яна не можа павялічваць аплату, — а яе трэба павялічваць увесь час, бо эфектыўнасць такой эканомікі падае. А Расія за тое, што дае, усё больш і больш патрабуе. Яна патрабуе ўжо столькі, што аддаваць усё — ужо небяспечна для асабістай улады Лукашэнкі. Сістэма апынулася ў тупіку.

Але гэты тупік апынуўся тупіком для ўсёй краіны. Яшчэ ў мінулым годзе народ спадзяваўся, што гэты раптам крутнецца, падмане, набярэ, выдурыць крэдытаў, і ўсё неяк наладзіцца. Сённяшнія выступы сведчаць: людзі зразумелі, што — усё.

Насамрэч, народ знаходзіцца ў страшэнным стрэсе. У рэгіёнах заробкі такія, што людзям ледзьве хапае на паесці. У сем'ях ужо думаюць, чым карміць дзяцей. Адказнасць за гэта людзі ўскладаюць на аднаго чалавека. Ён усё ўзяў на сябе, усім кіруе, а значыць, за ўсё адказвае.

Безумоўна, мы прысутнічаем пры канцы гэтай сістэмы. І, шчыра кажу, мяне ўжо больш хвалюе, што будзе пасля яе. Як зрабіць, каб у гэты пераходны перыяд не трапіць пад залежнасць іншай дзяржавы, не згубіць нашу незалежнасць, не выклікаць грамадзянскую канфліктаў у нашым расколатым грамадстве. Я зараз мушу звяртацца да людзей і казаць, што розніца ў мове, у геапалітычных прыхільнасцях ці ў сімпатыях да нейкай сімволікі не павінна быць падставай для канфлікту ў грамадстве. Мы — адзін народ, адна нацыя, у нас адзін дом, і мы павінны думаць пра тое, як наладзіць жыццё ў гэтым доме.

Зараз ужо трэба пачынаць думаць пра тое, што будзе пасля гэтага чалавека, хаця, безумоўна, так проста ён сысці не збіраецца. Але далей няма куды. У яго хутка не будзе грошай, каб карміць нават тую зграю, якой ён палохае народ.

Пасля яго нам найперш патрэбныя вольныя выбары, нам трэба легітымная ўлада, якая прадстаўляе ўвесь народ. Безумоўна, ёсць рызыка, што мы можам нарваца на чарговага папуліста, рызыка знешняга ўмяшання... Але без рызыкі рух наперад немагчымы.

Нам трэба рухацца. Для гэтага мы павінны зноў пачаць вучыцца дэмакратыі, будаваць сістэму падзелу ўлады, супрацьвагаў, стрымлівання, нармальную эканоміку. Усё гэта давядзецца рабіць вельмі хутка. Зрабіць гэта хутка не атрымаецца, калі мы будзем раз'яднаныя ў базавых каштоўнасцях.

І галоўная каштоўнасць — што ў нас, беларусаў, ёсць свой дом, свая дзяржава. Гэта наша дзяржава, і мы не павінны яе разбурыць.

# Прыватызацыя: «для сваіх» і тэрмінова



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Беларускі ўрад вырашыў правесці прыватызацыю ў краіне па ўласных правілах. Для таго, каб забяспечыць сябе і сваіх сваякоў прыбытковай уласнасцю нават пасля змены рэжыму.**

## Нестандартна — на першы погляд

Калі вельмі доўга — дзесяцігоддзямі — пішаш пра беларускую эканоміку, то міжволі пачынаеш бачыць за радкамі чарговага ўказу або законапраекту тое, па якой прычыне ён быў падрыхтаваны і чые інтарэсы за ім стаяць. Часам бачыш, што дакумент — вынік залішняй чыноўніцкай стараннасці, памножанай на дурноту. Менавіта такі, напрыклад, Дэкрэт №3 — аб «дармаедах». Часам бачыш, што гэтае адлюстраванне чыноўніцкай бездапаможнасці, спроба перакласці праблему на чужыя плечы. Гэта большасць дамоваў з Расіяй аб пастаўцы энерганосьбітаў.

А бывае, што проста скрозь радкі дакумента бачнае жаданне яго аўтараў забяспечыць сытае і нябеднае існаванне сваім дзецям ды іншым сваякам. У дадзеным выпадку гэта праект указу кіраўніка дзяржавы, які абвяшчае мараторый на праверкі да канца 2020 года і шырокія падатковыя палёгкі для фірмаў, якія працуюць у сферах рытэйлу, грамадскага харчавання і бытавых паслуг. А заадно — моцна спрошчаныя ўмовы прыватызацыі для прадстаўнікоў падобнага бізнесу. Гэты дакумент падрыхтавала Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Праект прадугледжвае ўвядзенне да 31 снежня 2020 года мараторыя на правядзенне планавых праверак кампаній, што працуюць у некалькіх сферах бізнесу, у якіх доля прыватнага капіталу на сёння вельмі вялікая. Адзінае — мараторый не закране праверак санітарнага і пажарнага нагляду, кантролю за выкананнем ліцэнзійных патрабаванняў і ведамаснага кантролю.

Арганізацыям і ІП указ дазволіць самастойна ўсталёўваць рэжым працы належных ім аб'ектаў (за выключэннем тых, якія адчыненыя з 23.00 да 7.00), а таксама ствараць стацыянарныя аб'екты незалежна ад таго, ці ўвайшлі яны ў зацверджаныя выканкамамі схемы размяшчэння.

Прадугледжваюцца значныя падатковыя палёгкі для тых, хто займаецца бізнесам на тэрыторыі сярэдніх, малых гарадскіх паселішчаў і ў сельскай мясцовасці. Паводле праекту, фірмы і ІП, якія валодаюць крамамі і павільёнамі з гандлёвымі месцамі да 100 квадратных метраў, гандлёвымі месцамі на рынках, аб'ектамі грамадскага харчавання з колькасцю месцаў да 50, а таксама тыя, хто аказвае бытавыя паслугі, атрымліваюць права не выплачваць ПДВ і падатак на прыбытак, а індывідуальныя прадпрымальнікі — падаходны падатак з фізічных асоб. Стаўка падатку пры выкарыстанні спрошчанай сістэмы падаткаабкладання ўсталяваная на ўзроўні 1%.

А цяпер — самае «смачнае». Праект указу прадугледжвае прэферэнцыі ў выглядзе продажу дзяржаўнай маёмасці па ацэначным кошце без правядзення аўкцыёну, а таксама растэрміноўку аплаты. Дазваляецца праводзіць перапланіроўку памяшканняў без распрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі, калі працы не закранаюць апорныя канструкцыі.

## Указ для дзяцей і сваякоў

Паглядзім, хто больш за ўсё выйграе ад новага ўказу ў выпадку яго прыняцця. Гэта, вядома, тыя жыхары рэгіёнаў, у каго ёсць пэўныя капіталы і адміністрацыйны рэсурс для ўваходжання ў новы бізнес на новых умовах — праз спрошчаную раздачу дзяржмаёмасці. Прыватны бізнес у правінцыі, у адрозненне ад Мінска, развіты зусім слаба, а дзе і развіты — там ён займае цалкам вызначаныя рынкавыя нішы, выхад за межы якіх — вялікая рызыка. Адпаведна, у шараговых грамадзян у правінцыі грошай на ўласную справу няма — гэта паказалі ў тым ліку прайшоўшыя пратэсты супраць «падатку на дармаедаў».

**Яны ведаюць, што цяперашняя ўлада не вечная, нават, перафразуючы Булгакава, «не вечная раптоўна». І спяшаюцца забяспечыць сабе сытую будучыню**

Хто застаецца? Чыноўнікі мясцовых адміністрацый і іх сваякі, а таксама «аграрныя бароны». То бок тыя мужычкі ў куртатых пінжаках, што атачаюць кіраўніка дзяржавы кожны раз, калі ён прыязджае з чарговай інспекцыяй на якое-небудзь аграпрадпрыемства. Давайце прыгадаем, колькі мільярдаў долараў дзяржава за пару апошніх дзесяцігоддзяў «пахавала» ў АПК? Па словах Міхаіла Мясніковіча, толькі за 2011–2015 гады гэта 43,8 мільярда долараў. Тут цяжка не пагадзіцца з Ярославам Раманчуком, які сцвярджае, што на самай справе дырэктары стратных аграпрадпрыемстваў і старшыні калгасаў «20 гадоў без ураджаю» — галоўныя ценявыя капіталісты ў сённяшняй Беларусі. Сапраўды, не ўсе ж вылучаныя ўрадам на аграпрам грошы згнілі разам з бульбай у капцах…




У 1996-м — 21 год таму — я працаваў у Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) — падраздзяленні Сусветнага Банка ААН. Больш дакладна — быў PR-менеджарам у праекце «Малая прыватызацыя ў Беларусі». Гэты праект, фінансаваны Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці, рэалізоўваўся ў Беларусі з 1993 па 2000 год. Падчас «малой прыватызацыі» ў прыватныя рукі перайшлі 70 працэнтаў аб'ектаў у гандлі і сферы грамадскага харчавання — 51%, у бытавым абслугоўванні насельніцтва — 36%.

І я памятаю, хто тады прыватызаваў падобныя аб'екты. Гэта былі людзі, якія некалькі папярэдніх гадоў гойсалі з вялікімі клецістымі кайстрамі ў Польшчу і Турцыю, завозячы на пачатку 90-х гадоў у Беларусь вельмі запатрабаваны замежны шырспажыў. Менавіта яны — у першую чаргу — станавіліся новымі ўласнікамі розных невялікіх бізнесаў, звычайна ўжо не звязаных з гандлем. Гэтыя людзі жадалі асталявацца на сваёй зямлі і жыць са свайго бізнесу. Але потым прагучала знакамітая фраза Лукашэнкі пра «вашывых блохаў» — і панеслася…

Сёння таго пакалення прадпрымальнікаў ужо папросту няма. Цяперашнія ІП, якія трымаюць кропкі на рэчавых рынках і ў гандлёвых цэнтрах, найперш заклапочаныя ўласным выжываннем. Яны не вераць дзяржаве і не плануюць выходзіць у новыя сферы бізнесу, нават невялікага па маштабах. Затое ў гэтую нішу прыходзяць дзеці і сваякі прадстаўнікоў мясцовай улады. У іх ёсць грошы, ёсць патрэбныя сувязі, каб атрымаць патрэбныя аб'екты міма аўкцыёну (прычым, цалкам легальна). І яны ведаюць, што цяперашняя ўлада не вечная, нават, перафразуючы Булгакава, «не вечная раптоўна». І таму яны спяшаюцца забяспечыць сабе сытую будучыню.

## Яны ўжо рыхтуюцца

На сумесным пасяджэнні Мінэканомікі і Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу 8 лютага па Праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016–2020 гады міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі зрабіў нечаканую заяву. Нечаканую для службоўца, які, па ідэі, павінен праводзіць у жыццё ўказанні кіраўніка краіны. Зіноўскі заявіў, што незваротнасць прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці неабходна замацаваць заканадаўча.

«Асобна хачу спыніцца на даўно наспелай неабходнасці заканадаўчага замацавання незваротнасці прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці і адпаведнага скарачэння тэрміну пазоўнай даўніны. Гэты важны крок стане дадатковым сігналам для інвестараў і дазволіць нам, нарэшце, наблізіцца да агульнапрынятых стандартаў абароны правоў суб'ектаў прыватызацыі», — сказаў міністр эканомікі. Па яго словах, урад мусіць правесці значную працу па карэкціроўцы адпаведнага заканадаўства, і першым чынам — закона «Аб гаспадарчых супольнасцях».

Дзіўна чуць такое ад міністра эканомікі ў краіне, дзе адабраць уласнасць і кінуць інвестара ў турму — нашмат прасцей, чым прыватызаваць якое-небудзь буйное прадпрыемства. Аднак зараз становіцца зразумела, што «замацаванне незваротнасці прыватызацыі» тычыцца зусім не сапраўды вялікіх заводаў рэспубліканскага або нават абласнога маштабу. Яны ў любым выпадку застануцца ў сферы інтарэсаў дзяржавы. Але рэгіянальная наменклатура, відавочна, нацэлілася на прыватызацыю мноства ўсё яшчэ захаваных «смачных кавалачкаў» у правінцыі. А ў гэтай сферы мясцовым функцыянерам заўсёды прасцей дамовіцца з усімі — уключаючы мясцовых праваахоўнікаў і працаўнікоў КДК.

**Можна выказаць здагадку, што гэта — новая форма сацыяльнай дамовы. Ранейшая грамадская дамова ўжо не дзейнічае. Верагодна, улада зацвярджае дамову ўжо з мясцовай наменклатурай. Яе сутнасць: «Мы вам — уласнасць і спакойны бізнес, вы нам — спакой у рэгіёнах і патрэбны вынік выбараў»**

Можна выказаць здагадку, што гэта — новая форма сацыяльнай дамовы. Ранейшая грамадская дамова ўладаў з насельніцтвам («мы вам — чарку і шкварку, а вы — не лезеце ў палітыку») ужо не дзейнічае, што і пацвердзіў недарэчны «дэкрэт аб дармаедах». Верагодна, зараз улада зацвярджае новую дамову — ужо з мясцовай наменклатурай. Яе сутнасць: «Мы вам — уласнасць і спакойны бізнес, вы нам — забяспечваеце спакой у рэгіёнах і патрэбны вынік выбараў».

# Яўген Усюкевіч: Калі б мяне судзілі ў Беларусі, то далі б 25 гадоў

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Яўгену Усюкевічу, былому палітвязню, жыхару Навагрудка, мінула 94 гады. Ён — той, пра каго ў падручніках гісторыі пішацца коратка: «калабарант». «Я проста хацеў Адраджэння Беларусі», — сказаў спадар Яўген за кубкам гарбаты. І ён расказаў, праз што давялося прайсці, каб наблізіцца да сваёй мары.**

### На Крэсах

Нарадзіўся Яўген Усюкевіч у 1923 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсачцы ля жывапіснай Любчы. На тыя часы гэта ўжо былі «Крэсы Усходнія». Спадар Яўген казаў, што ў самім вымаўленні «Крэсы Усходнія» ўжо было відавочным стаўленне палякаў да беларусаў. «Ні рускія, ні палякі так і не папрасілі прабачэнне за гістарычныя здзекі з нас», — з болем кажа былы вязень ГУЛАГу. Назва «Крэсы Усходнія» ў былога вязня дагэтуль выклікае абурэнне.

Скончыць сем класаў пачатковай школы пры паляках ён здолеў. Але каб пайсці вучыцца далей, ён мусіў бы рабіць пэўныя махінацыі са сваім веравызнаннем. Толькі спадар Яўген дагэтуль ледзь не б'е сябе ў грудзі, калі кажа: «Я праваслаўны».

«Напрыклад, каб атрымаць у польскім войску чын, большы за капітана, трэба было прыняць каталіцтва. Сябра майго бацькі, Адам Бутрым, які нарадзіўся ў 1896 годзе, служыў у царскім войску. А ўжо ў часы Керанскага ён падпісваўся так: веравызнанне — рыма-каталік. Нацыянальнасць — беларус. «Які ты беларус? — абуральна пыталі ў яго. — Ты ж паляк!» — «Я — беларус!» — расказвае спадар Яўген.

Па яго словах, колькі б палякі ні апалячвалі беларусаў, на Навагрудчыне ўсё адно чулася беларуская мова. Моладзь была ў касцёле, а мова сярод іх — беларуская. На Ашмяншчыне, Пастаўшчыне панавала каталіцкая вера, але багата людзей вызнавалі сябе беларусамі.

Спадар Яўген узгадваў, што ў іх мясцінах было шмат і грэка-каталікоў, якіх зараз у Беларусі толькі жменька. У Даляцічах, напрыклад, служба ішла ў грэка-каталікоў па-царкоўнаславянску, а казанні былі па-беларуску. А адна вуліца была выключна татарская. «І палякі ставіліся да магаметан больш лаяльна, чым да праваслаўных, — узгадваў Усюкевіч, — бо калісьці яны актыўна праявілі сябе пры Вітаўце».

### «Мы ж думалі, што там — рай»

На ўсю вёску, дзе жыў Яўген Усюкевіч, быў адзін прымач, па якім лавілі радыёхвалі. Вяскоўцы слухалі савецкі Мінск, які тады падаваўся салодкім забароненым плодам. «Мінск заўсёды быў нашай бацькаўшчынай. Мы думалі, што там — рай», — не аднойчы яшчэ будзе паўтараць Яўген Вячаслававіч.


Фота Арцёма Лявы

— У Заходнюю Беларусь прасочвалася агітацыя з Усходняй Беларусі, — расказвае спадар Яўген. — І моладзь наша стала паступова аб'ядноўвацца ў ячэйкі. Часам яна магла адзначаць такія святы, як Першамай: пісала лозунгі, раскідвала ўлёткі... І праз гэтую прапаганду моладзь пачкамі нелегальна перасякала мяжу з Саветамі. Мне распавядаў ужо пасля вайны адзін маёр, як ён на савецкай мяжы злавіў 15 хлопцаў, якія ўцякалі з Заходняй Беларусі... З нашага боку быў паляк, які дапамагаў нелегальна перабірацца хлопцам на савецкую тэрыторыю. Той, хто хацеў патрапіць на савецкі бок, мусіў мець пры сабе залатую манету — гэта і быў кошт пераправы. Той паляк меў сувязь з памежнікамі, якія і пераправілі хлопцаў на той бок. Хлопцы крыху прайшлі па савецкай мяжы, як пачулі: «Стой! Рукі ўверх! Куды ідзяце?» Хлопцы кажуць: «Працаваць хочам!» Ім гэты маёр адказвае: «Якое працаваць? Я мушу зараз вас у камеру пасадзіць! Колькі класаў адукацыі маеце?» А ў іх — 2, 3, 4 класы... Цёмныя вясковыя хлопцы... Тады маёр сказаў: «Хлопцы, заўтра ранкам я вас перакідаю назад і загадваю больш не хадзіць так, бо вас пасадзяць як польскіх шпіёнаў». А як адышлі хлопцы ад роднай мяжы кіламетраў на сем, так палякі і ўзялі іх «за дупу» — і ў Стоўбцы ў вязніцу: каго на два месяцы пасадзілі, каго — на пяць. Як магнітам цягнула моладзь у Беларусь. І з іх мала хто вярнуўся. У асноўным усіх згнаілі ў турмах».

***— А ці сустракалі вы Саветы, калі тыя прыйшлі ў 1939-м?***

— Сустракалі з хлебам і соллю, як і пісалі ў газетах. Але пасля прыходу збавіцеляў рай чамусьці стаў бедным, а паліцы ў крамах — пустымі.

Спадар Яўген узгадаў і пераслед людзей, якія былі звязаныя з польскімі ўладамі, асабліва «асаднікаў» — тых, хто служыў у Войску Польскім, і якіх пасля размясцілі на Навагрудчыне. Высылалі чыноўнікаў, суддзяў, пракурораў. Мясцовы памешчык, праўда, паспеў збегчы — праз Літву выехаў у Англію.

Але для Яўгена Вячаслававіча, якому ў 1939-м было 16 гадоў, важна было нарэшце атрымаць адукацыю. Ён працягваў вучобу ўжо ў савецкай школе.

— Памятаю, аднойчы ў нас у школе з'явіўся новы настаўнік — Барыс Рагуля. Ён, калі быў у Войску Польскім, трапіў у палон у Прусіі. Некалькі разоў спрабаваў уцячы з палону. Нарэшце яму пашанцавала. Ужо на савецкай мяжы чалавек яго пытае: «Хлопец, якога хрэну ты сюды ідзеш?». Але ж як якога... Яны ж усе верылі... Верылі, што ў рай ідуць. А Рагулю ж заўжды цягнула на бацькаўшчыну».

Рагуля не проста выкладаў па-беларуску, але і размаўляў па-беларуску з вучнямі. Ён быў адзіным настаўнікам, які размаўляў па-беларуску і па-за заняткамі. За гэта, пэўна, ён і выклікаў цікаўнасць у мясцовых органах.

«Аднойчы мы прыйшлі ў школу, а Барыса няма. Яго арыштавалі, як і некаторых іншых настаўнікаў», — з сумам працягнуў спадар Яўген.

### Немцы і партызаны

Немцы ў 1941-м, па словах спадара Яўгена, па Навагрудчыне не прайшліся, а пракаціліся на матацыклах. І зноў наступіла цішыня. Палонныя, якія здолелі вырвацца з акружэння, заставаліся на вёсках і працавалі. Немцы іх не чапалі.

«Шмат каго з савецкіх палонных выкупалі мясцовыя. Казалі, маўляў, што свой чалавек, давалі немцам, скажам, яйкі, а тыя ўзамен адпускалі палоннага. Так, мянялі нават зусім чужых, але выдавалі за сваіх. Шмат хто з палонных у мінулым былі афіцэры. Яны спакойна сабе жылі, і толькі пазней немцы сталі забіраць іх на працу».

Не прайшло і некалькіх месяцаў нямецкай акупацыі, як у Навагрудку арганізаваліся настаўніцкія курсы, якія доўжыліся шэсць тыдняў. Спадар Яўген скончыў іх, але настаўнікам працаваць не пайшоў.

Па словах былога вязня, усё змянілася тады, калі пачалі дзейнічаць партызанскія атрады. Кантроль узмацніўся, а жыхароў сталі вывозіць на працу ў Германію.

***— А чаму вы не пайшлі ў партызаны?***

— Партызаны ваявалі за Іосіфа Вісарыёнавіча. І наогул я лічу, што Беларусі партызанскай не было. Калі немцамі рабіліся аблавы, людзі ішлі ў лес. І станавіліся волей-няволяй лёсу партызанамі. Але ж каманда па стварэнні атрадаў была з Масквы! Кантроль усяго руху быў маскоўскі! І па-свінску паводзілі сябе і немцы, і партызаны. Праз аднаго забітага з-за кута немца гарэла цэлая вёска. Трэба было неяк бараніць нашы вёскі... Таму трэба было неяк аб'ядноўвацца.

### Легендарны Рагуля

Пасля таго, як Барыса Рагулю арыштавалі, яго чакала найвышэйшая мера прысуду — расстрэл, якога ён чакаў, седзячы ў Мінскай «амерыканцы». Але немцы наступалі, а савецкая войска адступала і пагнала з сабой і зняволеных. Падчас прыпынку зняволеных пачалі сартараваць: «палітычныя» — асобна, «бытавікоў» — асобна. Рагуля запісаўся ў «бытавікі» і ўпэўнена сказаў «прычыну» арышту: «Бацька мой не вывез таварнік».

— Вы ведаеце, што такое таварнік? — запытаўся спадар Яўген. — Не ведаеце, канечне, дзе ж вам... Раней, у каго быў конь, таму Саветы накладалі абавязак: гаспадар мусіў вывозіць лес. А калі не вывозіў, то яго маглі і арыштаваць. Вось і Рагуля прыкінуўся быў, што таксама сеў за гэта.

Вязняў адагналі ад Мінску кіламетраў за дваццаць. «Бытавікоў» паставілі ў адно месца, «палітычных» — у іншае. Рагуля кажа аднаму прафесару з Усходняй Беларусі: «Давай жа сюды!» Той толькі рукой махнуў. І «палітычных» тут жа расстралялі. Пасля пачаўся нямецкі абстрэл, і вязні разбегліся. Рагуля вярнуўся дадому і стаў працаваць ужо пры немцах — настаўнікам у настаўніцкай семінарыі і перакладчыкам у Навагрудскай адміністрацыі.

Аб'яднацца беларускім патрыётам немцы дазволілі толькі ў 1944-м, калі шанцаў на перамогу ў іх фактычна не заставалася. На Навагрудчыне такое аб'яднанне ўзнікла на базе настаўніцкай семінарыі. Лічылася, што Навагрудскі швадрон будзе ўяўляць сабой беларускую школу, якая павінна рыхтаваць малодшых камандзіраў для беларускага корпуса.

Траўб, нямецкі камісар Навагрудскага павету, прапанаваў Барысу Рагулю арганізаваць беларусаў. Спадар Яўген бяссільна разводзіць рукамі: «Чаму яны не далі арганізавацца беларусам у 1941-м? Была б свая паліцыя, сваё войска...»

### Навагрудскі Швадрон

Спадар Яўген не вагаўся наконт уступлення ў швадрон. Але немцам ён не верыў: «Немцы для мяне былі такія ж самыя ворагі, як і Саветы. Але я хацеў, каб не гарэлі нашы вёскі... Як і ў любым войску, у нашым корпусе ўсё было па раскладзе: пад'ём, малітва... — былы вязень раптам замаўчаў, а пасля зацягнуў да болю знаёмы спеў, які я памятала з падлеткавых гадоў, калі цікавілася калабаранцкімі спевамі: — «Беларусь наша Маці-краіна, ты з нас моцных зрабіла людзей...» Кожны з калабарантаў штодня прамаўляў гэтыя словы як прысягу вернасці Беларусі. На вопратцы ў чальцоў швадрону былі прымацаваны сімвалы: бел-чырвона-белы сцяжок і «Пагоня».

Спачатку малады Яўген быў камандзірам аддзялення. За-

тым — заступнікам камандзіра звязу.

«У нас была ўсталёўка: не чапаць партызанскія сем'і», — неаднаразова паўтараў спадар Яўген.

З дапамогай швадрону з'явілася магчымасць дапамагаць і жыхарам:

— Памятаю, як аднойчы мы пайшлі рэйдам з Навагрудка ў Любчу. Іду і бачу, што мой сусед Мікалай з нашай вёскі падмятае вуліцу. Я, канечне, падышоў і запытаў, што здарылася. А ён мне і кажа, што яму партызаны перадалі ліст (значыць, з кімсьці быў у сувязі з паліцыі), каб перадаў камусьці з паліцыі. На дарозе Міколу абшукалі і знайшлі гэты ліст. У выніку яго арыштавалі. Я пайшоў да Барыса Рагулі і кажу: «Гэта ж мой сусед! Трэба забраць яго». Рагуля мяне падтрымаў, разам пайшлі ў камендатуру і сталі адстойваць Міколу. Немцы і не супраціўляліся. А дзе яны будуць супраціўляцца? Нас шмат, і мы моцныя. Я прапанаваў Міколу застацца ў нас. А ён кажа мне: «Не, Жэнёк, куды мне ўжо!» Тады я сказаў яму, каб не трапляўся ні партызанам, ні немцам. Яго пасля, дарэчы, правяралі партызаны, і ведалі, дзякуючы каму ён застаўся жывы».

Былі напады і на сям'ю самога Яўгена. Аднойчы ў бацькаву хату прыйшлі партызаны:

— Яны паставілі чатыры снапы па перыметры, і камандзір загадаў аднаму з партызан іх падпаліць, а бацьку застрэліць. Але партызан той адмовіўся. А другі стрэліў, але, відаць, у паветра, бо бацька застаўся жывы. Проста так яны, канечне, не сышлі — на двары забілі кабана, забралі збожжа. Але адзін партызан сказаў, каб бацька тэрмінова перабіраўся ў Любчу, бо там была моцная ахова і паліцыя. Інакш — сям'ю расстраляюць. І дакладна! Ён выехаў, а на заўтра ўжо гарэлі ўсе нашыя будынкі — і хата, і хлявы... Але калі пасля вайны прыйшлі Саветы зноўку, то бацьку майго не чапалі, бо бацька не чапаў тых партызан.

## Хлябай да канца

Калі ўжо ішло вызваленне Беларусі, Навагрудскі швадрон паслалі ў Докшыцы на аперацыю супраць партызанаў. «Пакуль ехалі, мы праязджалі не вёскі, а пустыры. Усё было спалена... І мы ведалі, хто вінаваты ў гэтым — немцы і партызаны».

Рагулю далі загад, каб ён са швадронам рушыў на Вільню. Іх цягнік затрымалі, таму Барыс са швадронам вырашыў ехаць на Ліду, каб прывезці дадому сваіх хлопцаў. Гэта была апошняя магчымасць дабрацца дадому, бо за імі паравоз цягнуў нешта накшталт якара, які выкарчоўваў з зямлі ўсе рэйкі.

«Барыс прывёз нас у Навагрудак. Мы пераначылі ў парку. Пасля ён сказаў: «Хлопцы, адсюль я вас узяў, сюды і прывёў. Немцы прайгралі — так ім і трэба. Сам я тут не застануся, бо ведаю характар Саветаў — будуць судзіць. Хто хоча — можа сыходзіць са мной, а хто хоча — можа заставацца».

Напэўна, большасць хлопцаў даўно марыла пра мірнае жыццё на Бацькаўшчыне, за якую і цярпелі. Таму большасць з іх засталіся дома — чакаць прыходу новай улады. Яўген Усюкевіч жа адступаў разам з лейтэнантам Друцькам на конях у Прусію. Рагуля з некалькімі хлопцамі паехалі на машыне іншым шляхам. Больш яны са спадаром Яўгенам не бачыліся.

У хуткім часе яны апынуліся ва Усходняй Прусіі. «Там сабралі ўсіх такіх «недабіткаў» з Беларусі і Украіны, як і мы, — з сумнай іроніяй сказаў спадар Яўген. — І арганізавалі 30 дывізію СС пад кіраўніцтвам Гімлера».

Дывізіі перакінулі на Захад: ваяваць супраць амерыканскіх і французскіх войскаў. Але шмат хто цэлымі ўзводамі пачаў пераходзіць на амерыканскі бок:

— Дывізія была растрапаная. Я толькі і думаў: «Як перайсці на Захад?» Я быў фельдфебелем, Друцька — лейтэнантам. Мы неяк стаялі на ўзгорку, а ўнізе былі амерыканцы. Я кажу: «Хлопцы, не страляйце!» А мы былі ў хаце. Я пабег і сказаў сваім хлопцам, каб тыя стаіліся: завешалі вокны белай тканінай і не стралялі. Мы ж не збіраліся ваяваць супраць амерыканцаў. Да мяне прыбег ганец і сказаў, каб я на павозцы паехаў за Друцькам, бо яго раніла. Я пераязджаю з Друцькам мост. Ён замініраваны. Чалавекі чатыры глядзяць у бінокль, але не страляюць. Мы праехалі мост, і яго падарвалі немцы... І так я застаўся на нямецкай тэрыторыі. А маіх хлопцаў падабралі амерыканцы... А паколькі мы былі з Заходняй Беларусі, то Андэрс адразу апрануў іх у сваю форму. Па выніку, хтосьці застаўся з Лондане, а хтосьці зараз у Канадзе.

Праз некаторы час амерыканцы падрыхтавалі для будучых палонных трасу. На Вялікдзень 1945 года Беларуская дывізія была ўжо на амерыканскай тэрыторыі.

«Першым крочыў уласаўскі полк. Пасля — мы. Мы праходзілі мост, які быў высока-высока над прорвай, метраў, пэўна, сто. Пасярэдзіне моста вісеў нямецкі сцяжок і міна. На тым баку — бабавыя акопы. Уласаўцы падышлі і перарэзалі правады. Немец, які нёс варту, аж заплакаў, нібыта мы ўчынілі яму здраду. Але ж якая здрада? Яны ж ужо прайгралі... А салдацікі, што былі на беразе ў акопах, разам з намі і пайшлі пад крыкі «капут!».

Палонных завялі ў балота. Есці асабліва не было што: адна буханка хлеба на сто чалавек. На балоце было мокра і халодна. Толькі пасля палонных перакінулі ў Нармандыю.

Палонныя чакалі пераправы на беразе ў горадзе Шэрбургу ў Францыі. Яўген Вячаслававіч з захапленнем распавядаў, што калі быў светлы дзень, то салдаты маглі бачыць берагі Англіі — і на душы станавілася светла, бо хутка ўжо ўсё мусіла скончыцца.

Той, хто лічыў сябе палякам, мог гэта вызнаць і адразу перанакіравацца ў армію Андэрса:

— Быў у нас такі Барыс з Любчы. Вагаўся-вагаўся, а пасля плюнуў: «Ды ну іх, пайду да палякаў». Ён пайшоў і запісаўся палякам. Яго адразу апранулі ў «Андэрса» — і ён вольны. А са мной жа былі мае шараговыя салдацікі, беларусы. Я што, буду прыкрывацца палякам? Не. Змагаўся за Беларусь, вызнаваў сябе беларусам — так трэба ўжо хлябаць да канца. У жніўні нам прыказалі падняцца і ісці на вакзал. Думалі, нарэшце, перавядуць на карабель. Глядзім — чырвоныя колышкі, чалавек трыццаць з сабакамі і чуем голас: «Господа офицеры, следуйте в вагоны!».

23 жніўня іх затрымалі. 24 жніўня — арыштавалі. 25 жніўня — судзілі.

## Суд і лагер

Перад судом у камеру да Яўгена зайшоў СМЕРШавец:

— Як настрой? — запытаўся ён.

— Ну які тут настрой можа быць? Чакаю, калі ўжо шлёпнуць.

— Хто цябе страляць будзе? Сказаць колькі табе дадуць? Не больш за восем гадоў! Але судзіць будзем.

Усюкевіч кажа, што на судзе ў яго запыталі нешта пра гаспадарку, а пасля зачыталі вырак: «Без канфіскацыі маёмасці восем гадоў папраўчай калоніі».

«Калі б мяне судзілі ў Беларусі, то далі б 25 гадоў. У Беларусі ўсім давалі па 25. Бо Беларусь хацела выслужыцца перад Масквой. Беларусь была самай савецкай краінай», — дадае Яўген Усюкевіч.

Уласаўскім лейтэнантам давалі па 10–15 гадоў. Спадар Яўген не сказаў, што ён лейтэнант: «І кінулі нас у вагоны... Там усё як трэба, — дзірка, параша — і павезлі ў айчынны рай... А ў лагеры нас прымаў адзін баец і казаў, маўляў, каго прымаць, фашыстаў? Іх — у расход! Мяне абшманалі... А пасведчанне настаўніка, «аўсвайс», абразок Багародзіцы — усё парвалі, скінулі ў кучу і падпалілі».

Пра лагернае жыццё пад Рыбінскам спадар Яўген распавядаў без ахвоты. Ён усё жартаваў: «Я ж на курорце быў, а не ў лагеры! Гэта вы тут з мяне арыштанта вялікага робіце!»

У лагеры Усюкевіч спачатку быў на зямельных працах, а пасля стаў цесляром.

Лісты з лагера Яўген мог пісаць хоць кожны дзень, у той час як у некаторых лагерах ліст сваякам можна было пісаць двойчы на год.

Аднойчы Яўгена паслалі ў барак на «адкормліванне». У іх лагеры раптам стала паміраць шмат моладзі. І было вырашана, што тых, хто можа хутка памерці, варта крыху падкарміць: «Нас распранулі і сталі паказваць камісіі. Мы павінны былі проста прайсціся да дзвярэй. Я ўжо амаль дайшоў да дзвярэй, як да мяне падыходзіць дзяўчына з камісіі і просіць прайсціся яшчэ раз. І яны са сваёй сяброўкай паставілі мне адну і тую ж групу здароўя. Таму цэлых восем баракаў па сто чалавек, і я разам з імі адпачываў цэлы месяц. А мяне ж наогул маглі паслаць адтуль куды падалей... Так што, скажыце, не ў кашульцы нарадзіўся?»

Аднойчы спадару Яўгену дазволілі нават спатканне з бацькамі! І да яго ў сібірскі Рыбінск з Навагрудчыны прыехала маці:

— І тут тэлеграма прыходзіць — у Брэсцкай вобласці разгарэўся тыф! І маю маму, родную маю, да мяне не пускаюць... Я ж мог сем сутак з ёй быць. І яна прыехала ў такую разруху... Нават сала, якое прывезла, не хацелі мне даваць: думалі, заразнае.

У сям'і Усюкевічаў Яўген быў вязнем не адзін. Брат Яўгена Алесь таксама трапіў у ГУЛАГ. Ён прайшоў усю вайну, нават меў медаль «За ўзяцце Кёнігсбергу». Але пасля вайны Алеся і яшчэ 17 чалавек абвінавацілі ў стварэнні антысавецкай арганізацыі:

— Іх усіх судзілі. Сярод моладзі быў карэспандэнт баранавіцкай газеты, які шпіёніў за імі. Шурку далі дзесяць гадоў ГУЛАГа, бо ён ваяваў. А мой брат стрыечны, і ўсе тыя, каму далі па 25 гадоў, — усе загінулі.

Сястру спадара Яўгена Тамару таксама выслалі на Урал, бо яна мела нядобранадзейных братоў.

Пасля васьмі гадоў Яўген Усюкевіч вярнуўся на радзіму:

— Куды ні ткніся — ідзі назад. Спрабаваў уладкавацца нават у Мінску — усё адно сыдзі. Калі я казаў працадаўцам, што меў судзімасць, мне казалі адразу — «да пабачэння».

У выніку ўсё ж атрымалася ўладкавацца цесляром у Любчы.

## Жэня плюс Жэня

Жонкі спадара Яўгена ў жывых ужо няма шмат гадоў. Два гады таму памёр і сын, які з нараджэння быў з псіхафізічнымі асаблівасцямі. Засталася толькі дачка з сям'ёй.

Жонку спадара Яўгена звалі Яўгенія. Яна скончыла тыя ж настаўніцкія курсы пры немцах, што і яе муж. Толькі тады яшчэ іскры паміж імі не прабегла. У 1944 годзе Яўгенія патрапіла на Усебеларускі кангрэс:

— Мая жонка цікавілася гэтым усім і трапіла на кангрэс не як дэлегатка, а як проста цікаўная. Але на яе ж нехта данёс... За гэта па прыходзе савецкай улады яе і адправілі ў лагер. Жонка вучылася ў медычным універсітэце. У лагеры замест 25 гадоў яна адбыла восем. Яна аднавілася ў інстытуце, адкуль яе выгналі. Жэня звярнулася з гэтым да Мазурава. Яе аднавілі, а пасля зноў адлічылі. Паслалі працаваць фельчарам. Пасля яна зноў аднавілася і нарэшце яго скончыла.

Я не ведаю, чаму пайшла за мяне замуж мая жоначка, мая малышка... Я б за сябе не пайшоў, шчыра! — на поўным сур'ёзе сказаў спадар Яўген.

## «Судзімасць знятая»

З Любчы сям'я Усюкевічаў пераехала ў Наваградак. Аднойчы, калі спадар Яўген як заўжды працаваў у майстэрні, па вуліцы данёсся крык: «Усюкевіча ў КДБ! Усюкевіча ў КДБ!»:

— Я прыходжу ў Навагрудскі КДБ. А яны мне: «З вас судзімасць знятая. Вы нават можаце пайсці вучыцца!»

— Якое вучыцца? Мяне ж нідзе не прымалі! — абураюся я.

— Дык вы звяртайцеся да нас. Вам трэба яшчэ вучыцца. І не звяртайце ўвагу на кпіны. З вас судзімасць знятая. І колькі вы будзеце ў Навагрудку, вас у КДБ ніхто ніколі больш не выкліча.

Дакументаў аб заканчэнні сямі класаў у Яўгена Вячаслававіча не засталося — іх спалілі перад адпраўкай у ГУЛАГ. Яўген пайшоў вучыцца ў вячэрнюю школу. Там ён скончыў восьмы клас. Паступіў у мінскі тэхнікум без іспытаў. Чатыры з паловай гады ездзіў у Мінск, каб здаваць іспыты. А пасля дырэктар дзённага аддзялення прапанаваў застацца выкладаць. «А кватэра? Я ж сямейны!»

Кватэру адразу прапанаваць не змаглі. Так і вярнуўся спадар Яўген у Навагрудак з дыпломам «тэхнік-будаўнік».

Спачатку ён працаваў інжынерам па тэхнічным наглядзе. Пасля — начальнікам сааружэнняў. У 70 гадоў выйшаў на пенсію. Пенсія ў яго — крыху больш за тры мільёны. Але спадар Яўген і на гэта кажа: «Дзякуй Богу!».

Пасля лагеру беларускую незалежнасць спадар Яўген ні з кім не абмяркоўваў і са сваімі навагрудскімі вайсковымі сябрамі, якія выжылі, не сустракаўся. «Усе мы сядзелі па норах», — узгадваў ён. Сваёй дачцэ Усюкевічы не распавядалі, што яны — вязні, якія адсядзелі па восем гадоў. Але дачка пасля сказала, што здагадвалася пра гэта. Ад былога жыцця ў Яўгена Вячаслававіча засталіся толькі рэдкія сустрэчы і яшчэ больш рэдкія навіны з Захаду — ад тых, каму ў 1945-м пашанцавала больш, чым яму.

«Я проста хацеў адраджэння Беларусі, — задуменна сказаў спадар Яўген. — Таму хай зараз моладзь трымаецца свайго. Трымаецца і не ўпускае, хаця і будзе за гэта хлябаць».



Фота Арцёма Лявы

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Біскупы заклікаюць не галасаваць за AfD

Некалькі гадоў таму ў Германіі пачаўся рост папулярнасці нямецкай еўрафобскай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), за якую цяпер гатовыя галасаваць каля 12 працэнтаў выбаршчыкаў. Пры гэтым велізарны рост прыхільнікаў AfD выглядаў парадаксальным, паколькі сама партыя не мела праграмы. І вось праграмны тэкст, які так доўга чакалі, з'явіўся, каб стаць прадметам дэталёвага аналізу. У прынцыпе, усе згодныя, што гэта — стандартны папулісцкі маніфест, аўтары якога перакладаюць адказнасць за ўсе праблемы на Еўрасаюз. Аднак ёсць і больш забаўныя ацэнкі. Напрыклад, канферэнцыя каталіцкіх біскупаў прыйшла да высновы, што праграма AfD антыхрысціянская. Падставай для такіх высноў стала тое, што змешчаныя ў тэксце папулісцкія абяцанні супярэчаць вучэнню Хрыста. У прыватнасці, ідэям Хрыста супярэчаць такія тэмы, як агрэсія, ксенафобія, нацыяналізм. Сыходзячы з усяго сказанага, біскупы заклікалі хрысціян не падтрымліваць папулістаў на выбарах. Праўда, наўрад ці заклікі біскупаў будуць мець вялікі ўплыў на вынікі выбараў. Таму кансерватары, на полі якіх гуляюць папулісты, прыдумляюць іншыя хады. Так, Ангела Меркель асабіста прэзентавала новы электрашокер для паліцыі і абвясціла, што кампанія яе партыі будзе праходзіць пад нацыянальнымі сцягамі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Мова пад пагрозай?

Азербайджанская грамадскасць б'е трывогу. Краіна, якая за перыяд незалежнасці пабудавала трывалыя эканамічныя і культурныя сувязі з Турцыяй, сутыкнулася з унікальнай праблемай. Азербайджанская мова настолькі падобная на турэцкую, што Азербайджан рызыкуе калі не цалкам страціць тытульную мову, дык як мінімум сутыкнуцца са стратай часткі лексікі. Сутнасць праблемы ў тым, што нацыянальныя тэлеканалы не надта папулярныя, і шмат азербайджан аддаюць перавагу турэцкаму тэлебачанню. У выніку шмат хто паступова пачынае ўжываць усё большай турэцкай лексікі. Пакутуюць праз гэта, перш за ўсё, настаўнікі азербайджанскай мовы, якія вымушаныя нанова вучыць дзяцей, якія нагледзеліся турэцкага тэлебачання, азербайджанскім словам. Праблема не такая простая, паколькі некаторыя азербайджанцы (напрыклад, пратурэцкая апазіцыя) заклікаюць да стварэння адной дзяржавы цюркаў. І, як следства, вітаюць моўную асіміляцыю. Што тычыцца філолагаў, дык яны не вераць, што турэцкая мова цалкам знішчыць азербайджанскую. А вось некаторыя мясцовыя дыялекты сапраўды могуць знікнуць.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Дэкамунізаваць ВНУ!

Кансерватыўная прэса Брытаніі пачала кампанію за рэформу універсітэтаў. На думку кансерватараў, сярод выкладчыкаў ВНУ занадта шмат сацыялістаў. У якасці доказаў прыводзіцца статыстыка. Паводле сацыёлагаў, амаль 40 працэнтаў выкладчыкаў ВНУ Вялікабрытаніі галасуюць за лейбарыстаў, каля 11 — сімпатызуюць «Зялёным», і яшчэ 9 працэнтаў — ліберал-дэмакратам (гэта партыя паўстала на грунце адколу ад лейбарыстаў). У той жа час правыя партыі падтрымліваюць толькі 35 працэнтаў брытанскіх выкладчыкаў. Як кажуць кансерватары, тут хаваецца прычына таго, што шматлікія выпускнікі ВНУ пад уплывам настаўнікаў варожа ставяцца да прынцыпаў рынкавай эканомікі. На практыцы гэта азначае адмову ад канкурэнцыі, апатыю на працоўным месцы, адсутнасць ініцыятывы. У агульным вымярэнні гэта кепска ўплывае на сітуацыю на рынку. Цяжка сказаць, як аўтары рэформы універсітэтаў змогуць паўплываць на мазгі выкладчыкаў. Праблема для рэфарматараў-кансерватараў палягае таксама ў тым, што пры ўсіх праблемах брытанская вышэйшая адукацыя застаецца адной з найлепшых у свеце.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Еўрамайдан супраць эротыкі

Ва Украіне — шалёны інтарэс да фільму «Зорны дэсант» амерыканскага рэжысёра Пола Верховена. Прычына — пастанова Нацсавету па справах тэлебачання і радыё. Савет санкцыянаваў праверку па факце дэманстрацыі гэтай карціны на адным з цэнтральных тэлеканалаў, паколькі тая ўтрымлівала «злачынную эротыку». Выснова цэнзараў выклікала вялікі грамадскі рэзананс. Гэта першы выпадак у гісторыі Украіны, калі канал могуць закрыць па такім артыкуле. Надзвычай заінтрыгавала ўкраінцаў тое, што ў фільме, які распавядае пра барацьбу зямлян з жукамі-іншапланетнікамі, знайшлі эротыку. Публіка шмат разоў уважліва прагледзела карціну — і сапраўды, знайшла там адну сцэну ў ложку, якая, праўда, па цяперашніх часах выглядае амаль цнатліва. Як следства, усе чакаюць вынікаў праверкі. Праўда, магчыма, адказ на загадку будзе больш банальным. Фільм з выразным палітычным пафасам дэманстравалі ў так званы «Дзень герояў нябеснай сотні», і не выключана, што цэнзары пабачылі ў гэтым нейкую крамолу і вырашылі проста запалохаць тэлеканал.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Цяпер яшчэ і Nordexit

Алег НОВІКАЎ

**Услед за шатландцамі і каталонцамі пра дзяржаўнасць задумаліся на Поўначы Італіі, дзе абвешчаны рэферэндум аб пашырэнні аўтаноміі.**




«Мы стварылі Італію, зараз мы павінны ствараць італьянцаў», — прызнаўся адзін з бацькоў італьянскага адзінства пасля заканчэння аб'яднання Апенінаў у сярэдзіне XIX стагоддзя. Актуальнасць таго выразу захавалася да нашых дзён, пра што яскрава сведчаць апошнія падзеі на Поўначы Італіі. У мінулым снежні Раберта Мароні, прэм'ер ураду правінцыі Ламбардыя, анансаваў плебісцыт наконт пашырэння аўтаноміі краю. Адначасова стала вядома, што падобнае мерапрыемства запланавалі і ў суседняй правінцыі Венета.

Ідэя рэферэндуму з'явілася не на пустым месцы. І Ламбардыю, і Венету кантралюе партыя «Ліга Поўначы», якая ад самага пачатку існавання носіцца з праектам Паданіі — аўтаномнай дзяржаўнай адзінкі ў складзе (пажадана федэратыўнай) Італіі.

Неабходнасць будаўніцтва дзяржаўнасці Паданіі аргументуецца не толькі культурным кантрастам паміж паўночнымі раёнамі і «Mezzogiorno» — так называюць італьянскі поўдзень. Паўночнікам яшчэ з 60-х гадоў мінулага стагоддзя не падабаецца, што іх падаткі цэнтр забірае на субсідыі для беднага аграрнага Поўдня. З часам такая ўстаноўка спрыяла ўзнікненню калектыўнай ксенафобіі наконт паўднёвых італьянцаў, якія ў дадатак, мауляў, забіраюць працоўныя месцы. У наш час ксенафобскі комплекс на Поўначы пашырыўся на адрас усіх мігрантаў. Не так даўно ў клуб ворагаў «Лігі Поўначы» трапіў і Еўрасаюз, які, як кажуць ідэолагі партыі, таксама «смокча» падаткі з рэгіёну.

Хаця міфу аўтаномнай Паданіі амаль 30 гадоў, найбольшым поспехам на гэтым шляху было стварэнне ў 1998 годзе паданскай зборнай па футболе. Цяпер у выглядзе рэферэндуму робіцца больш сур'ёзны крок.

У прынцыпе, запланаваны рэферэндум не будзе мець прававых наступстваў. Так, па словах Лукі Дзая, губернатара Венета, сэнс народнага волевыяўлення — спрыяць духу дэмакратыі, узмацніць аўтарытэт самакіравання. Пасля абвяшчэння даты плебісцыту жыхарам нават прапануюць сфармуляваць сваё бачанне аўтаноміі. Аднак, хутчэй за ўсё, галоўным пунктам, які вынесуць на галасаванне, будзе патрабаванне фіскальнай аўтаноміі. Той жа сіньёр Дзая прапануе пакідаць на месцах усе падаткі, якія плацяць фізічныя асобы. У выніку бюджэт той жа правінцыі Венета папоўніцца на 21 мільярд еўра, якія будуць інвеставаныя ў мясцовую — перш за ўсё турыстычную — інфраструктуру. Пры гэтым сцвярджаецца, што такая рэформа дазволіць павялічыць агульнаітальянскі бюджэт і, адпаведна, падтрымку дэпрэсіўнага Поўдня.

Арганізатары кажуць, што ў лепшым выпадку дамагаюцца для Поўначы статусу, падобнага на той, які мае Паўднёвы Ціроль. Нямецкамоўны край у складзе

**У аматараў італьянскага адзінства ёсць незвычайны саюзнік: прагматычнасць. Рацыяналістаў палохаюць выдаткі на правядзенне плебісцыту без канкрэтных наступстваў**

Італіі з 2001 года мае статус асобнай правінцыі. Згодна з гэтым статусам, урад гарантуе ціролцам шырокія культурныя і моўныя правы. Таксама тут існуе рэгіянальны парламент, які мае не толькі заканадаўчую ўладу на рэгіянальным узроўні, але і абірае прэзідэнта, віцэ-прэзідэнтаў і міністраў аўтаноміі.

Аднак гэтая быццам бы нерадыкальная лексіка «Лігі Поўначы» не ўражвае Рым, які вуснамі папярэдняга прэм'ера Матэа Рэнцы асудзіў ідэю плебісцыту. Такая ацэнка цалкам слушная. У цэнтры ўжо падлічылі, што фіскальная аўтаномія Ламбардыі і Венета будзе каштаваць бюджэту каля 90 мільярдаў еўра. Акрамя таго, усе разумеюць, што «Ліга Поўначы» наўрад ці супакоіцца, атрымаўшы фіскальныя бонусы для краю. Выданні, блізкія да «Лігі Поўначы», адкрытым тэкстам пішуць, што рэгіён Паданія атрымае незалежнасць наступным пасля Шатландыі і Каталоніі, прычым ужо ў 2018 годзе. Амбіцый не хавае і партыйнае кіраўніцтва. «Я ўсё жыццё казаў пра федэралізм і аўтаномію. І вось час прыйшоў. Або мы страцім разам усё, або мы разам атрымаем усё», — пракаментаваў ідэю рэферэндуму Матэа Сальвіні — старшыня «Лігі Поўначы». Ужо прыдумана, як будзе называцца працэс выхаду Поўначы са складу Італіі — Nordexit.

Наўрад ці ў Рыме не ведаюць пра настроі ў шэрагах лігістаў. Праўда, агульная палітычная сітуацыя спрыяе сепаратысцкім планам. У італьянскім дзяржаўным апараце пануе хаос. Пасля нядаўняй адстаўкі прэм'ера Рэнцы краінай кіруе часовы ўрад. Ва ўрадавай Партыі дэмакратаў (PD) пасля згаданай вышэй адстаўкі ідуць цэнтрабежныя працэсы: PD пакінулі цэнтрысты і левыя радыкалы. Няма дэфіцыту ў плётках пра пазатэрміновыя выбары, па выніках якіх паўстане новая кааліцыя. У якасці ўмовы падтрымкі новага ўраду «Ліга Поўначы» можа патрабаваць санкцыі на рэферэндум.

Праўда, у аматараў італьянскага адзінства ёсць незвычайны саюзнік. Гэта тая самая прагматычнасць, якой так ганарацца паўночныя італьянцы. Рацыяналістаў з Поўначы палохаюць бюджэтныя выдаткі, неабходныя для арганізацыі плебісцыту без канкрэтных наступстваў. Падлічылі, што рэферэндум будзе каштаваць Ламбардыі каля 20 мільёнаў еўра, а Венета — каля 14 мільёнаў.

У тым ліку праз гэты нюанс усю зіму лідары «Лігі Поўначы» не маглі дасягнуць згоды наконт даты народнага волевыяўлення. Толькі 13 сакавіка на пасяджэнні кіраўніцтва партыі было прынятае канчатковае рашэнне. У той жа дзень губернатары Венета і Ламбардыі накіравалі ў Рым сумесны ліст з просьбай даць згоду на правядзенне рэферэндуму. Ён запланаваны на 15 чэрвеня, калі ў краіне адбудуцца і мясцовыя выбары.




Фота www.akmnsk.su

# Сто гадоў без цара

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ў Расійскай імперы выбухнула Лютаўская рэвалюцыя, якая запусціла працэсы трансфармацыі ў нашым рэгіёне. На юбілей былі прапанаваныя незвычайныя версіі падзей стогадовай даўніны і агучаныя новыя іх трактоўкі.**

Напэўна, для большасці суайчыннікаў азначэнне «Лютаўская рэвалюцыя» адраджае ў памяці сцэну з фільма «Міколка-паравоз». Там радасныя дзеці крычаць: «Цара зрынулі!» і бягуць з класу, каб шпурляць у буржуяў гайкамі і помсціць жандарам.

На самай справе, усё было больш складана, чым у Лынькова. Той жа буржуй, у якога Міколка так марыў запусціць гайкай, у лютым 1917-га, напэўна, меў большае за іншых права называцца рэвалюцыянерам. Па ходзе цяперашніх дэбатаў шмат гісторыкаў пагаджаюцца, што менавіта буйная буржуазія спрыяла прадуктоваму крызісу ў Петраградзе, які выліўся ў рэвалюцыйныя падзеі. Буржуазія і частка дэпутатаў Думы лічылі, што адстаўка непапулярнага Мікалая ІІ дапаможа мабілізаваць нацыю і фронт. Іх фантазіі ляснуліся, калі ініцыятыву перахапілі рабочыя і салдацкія Саветы.

Калі наконт ролі буржуазіі ў рэвалюцыі існуе кансенсус, дык іншыя моманты тых падзей выклікаюць спрэчкі. Напрыклад, дасюль няма адказу на пытанне, хто першым выйшаў на вуліцу. Феміністкі лічаць, што Лютаўская рэвалюцыя абавязаная кабетам. Як вядома, пралогам да яе сталі жаночыя пратэсты супраць дэфіцыту хлеба ў крамах і росту коштаў на прадукты. Гэтую пазіцыю часткова аспрэчваюць некаторыя ўкраінскія нацыяналісты. На іх думку, рэвалюцыя наўрад ці адбылася без жаўнераў Валынскага палку, які ўзняў бунт, даўшы прыклад усяму піцерскаму гарнізону.

Хапае ў цяперашніх гісторычных спрэчках і аматараў альтэрнатыўнай гісторыі. Думаецца, усіх пераплюнулі медыя Пскова. Менавіта на чыгуначнай станцыі Пскова Мікалай ІІ вырашыў адмовіцца ад кароны. На інтэрнэт-форумах актыўна фантануюць сцэнарамі, паводле якіх жыхары горада сто год таму абараняюць імператара ад піцерскіх рэвалюцыянераў. А цар і яго нашчадкі, нібыта, ацанілі такі ўчынак вернападданых з Пскову і ператварылі горад ледзь не ў новую сталіцу Расійскай імперыі.

Цікавіць гісторыкаў і хуткая эрозія ідэй дэмакратыі пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Той працэс ахвотна экстрапалююць на падзеі пасля краху СССР. Чытачы сярэдняга ўзросту, безумоўна, памятаюць, што нейкі час двухгаловы арол на гербе Расійскай Федэрацыі не меў кароны — як і герб Расіі пасля лютага 1917-га. Аднак стварыць культ Лютаўскай рэвалюцыі і яе ідэяў у Ельцына не атрымалася. Ужо пры ім, асабліва падчас прэм'ерства Прымакова, у Расіі пачалася рэабілітацыя імперыі, і, як следства, карону двухгаловаму арлу вярнулі. Кансерватыўныя публіцысты пішуць, што менавіта страта дэмакратычных ілюзій пасля лютага 1917-га заклала ў расійскай свядомасці ген нянавісці супраць любых рэвалюцый, што таксама праяўляецца ў правалах усіх спробаў арганізаваць «Майдан» у Расіі.

Сапраўды, сярод антыпуцінскай апазіцыі хапае спробаў разглядаць люты 1917-га як расійскі «Майдан», які перамог. Менавіта гэтае падабенства, быццам бы, стаяла за рашэннем Крамля вельмі сціпла адзначаць гадавіну той рэвалюцыі.

Узгадалі пра падзеі мінулага і ў Данбасе. Украінскія нацыяналісты, якія блакуюць камунікацыі з нефармальнымі рэспублікамі, заклікалі салдат ВСУ зрабіць гэтак жа, як салдаты ў 1917-м — перайсці на бок народа і разам зрынуць уладу, а дакладней, карумпаваны рэжым Парашэнкі. Праўда, заклік застаўся не пачутым.

У сувязі з юбілеем гальванізаваліся аматары рэстаўрацыі манархіі. Нават на ўзроўні дэпутатаў ДзяржДумы кажуць, што Лютаўская рэвалюцыя яскрава давяла: манархія — ідэальны рэжым для Расіі. Адсюль і заклікі аднавіць імперыю. Прычым на ролю імператара прапануецца не прадстаўнік дому Раманавых, а самі разумееце хто. Той жа Жырыноўскі прапануе сабраць Земскі сабор, які абвесціць манархам Уладзіміра Пуціна. На думку старшыні ЛДПР, новая мадэль манархіі не будзе мець інстытуту прынцаў-нашчадкаў. Пасля смерці манарха зноў збіраецца Земскі сабор, які абірае наступнага цара-бацюхну.

Аднак на самай справе кансерватыўная трактоўка наступстваў Лютаўскай рэвалюцыі вельмі спрэчная. Менавіта Люты запусціў «вясну народаў» былой Расійскай імперыі. Так, ва Украіне люты 1917-га разглядаюць як пачатак адраджэння нацыянальнай дзяржавы. Пры прэзідэнце прынятая праграма святкавання стагоддзя «Нацыянальна-вызвольны змаганняў 1917–1921». Цікава, што ў межах святкавання таксама выдадуць дзіцячую настольную гульню пра рэвалюцыю. Нягледзячы на буйны маштаб святкаванняў, кіеўскія гісторыкі вызнаюць, што дактрынальнага бачання ўкраінскага ўдзелу ў Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года не сфармавалася.

Аднак гэта проста дробязь на фоне іншага пытання, якое таксама было агучанае ў прэсе: а ці скончылася Лютаўская рэвалюцыя? Калі паглядзець навокал, дык трэба прызнаць: барацьба за дэмакратычную трансфармацыю краін, якія паўсталі на рэштках імперыі, трывае дасюль. Так што ў некаторым плане кніга «Міколка-паравоз» і сёння не згубіла актуальнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Тамаш Яскола

Дэпутат польскага Сейму ад папулісцкай партыі «Kukiz'15» звярнуў увагу на нестыкоўкі ў існуючых міжнародных дамовах, якія, на яго думку, дазваляюць аспрэчыць кантроль Польшчы над Гданьскам.

Справа ў тым, што польская адміністрацыя ў Гданьску паўстала на глебе пасляваенных дамоваў, паводле якіх Польшчы адыходзіла частка нямецкіх земляў. Аднак да вайны Гданьск не быў часткай Германіі. Згодна версальскім дамовам, Гданьск (Данцыг) быў вольным горадам, дзе вышэйшым органам улады быў гарадскі савет, які Гітлер разагнаў у 1939-м.

Аднак на гэтым гісторыя не закончылася. Пасля вайны былыя сябры гарадскога савету адрадзілі гданьскі ўрад у эміграцыі. Савет, куды абіраюцца нашчадкі грамадзян Гданьску, існуе і цяпер ды патрабуе ад Варшавы прызнаць яго законнай уладай, на што фармальна, як бачым, мае правы. Польскі МЗС намагаецца супакоіць пана Ясколу спасылкай на тое, што гданьскі гарсавет — вельмі маргінальная тусоўка, думка якой ніколі не цікавіла афіцыйны Берлін. Між тым, польская прэса баіцца, што пасля таго, як увосень у Бундэстаг трапяць правыя папулісты, тэма прыналежнасці Гданьску будзе рэгулярна ўздымацца ў нямецкай палітычнай дыскусіі.

Дэпутат «Kukiz'15» заклікае польскую дыпламатыю ўжо зараз выставіць Берліну ўльтыматум, у якім патрабаваць забароны дзейнасці гарсавету Гданьска.

### Якаб Зума



Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) ад партыі Афрыканскі Нацыянальны Кангрэс (ANC) заклікаў да папраўак у тэкст Канстытуцыі, паводле якіх дзяржава мае права нацыяналізаваць землі белых фермераў. Гаворка пра тэрыторыі, якімі валодаюць нашчадкі белых каланістаў.

У 90-я гады, падчас пераходу краіны ад сістэмы апартэіду да дэмакратыі, ім гарантавалі недатыкальнасць іх зямельнай маёмасці. Аднак пытанне нацыяналізацыі земляў не знікла з палітычных дэбатаў у ПАР. Некалькі год таму ў парламент прарвалася партыя «Змагары за эканамічную свабоду» з праграмай нацыяналізацыі земляў. Кангрэс усімі сродкамі спрабаваў сабатаваць агучаную «Змагарамі» ідэю, разумеючы ўсе яе наступствы. У суседнім Зімбабвэ канфіскацыі земляў у белых фермераў прывялі да крызісу сельскай гаспадаркі і нават голаду.

Аднак ва ўмовах эканамічнага крызісу і падзення рэйтынгаў, Зуме давялося саступіць радыкалам. Год таму парламент, дзе ANC мае большасць, падтрымаў адпаведны законапраект. Зараз робіцца яшчэ больш радыкальны крок, паколькі землі, паводле праекту паправак, цяпер можна канфіскаваць без кампенсацыі.

Белая меншасць ПАР ужо назвала прапанову Зумы «дэкларацыяй вайны».

Застаецца дадаць, што Паўднёвая Афрыка — адзін з вядучых пастаўшчыкоў прадуктаў на сусветны рынак. Крызіс яе аграрнага сектару можа прывесці да росту коштаў на харчовыя тавары. Як следства, могуць зноў вырасці стаўкі вакол Украіны, дзе знаходзіцца шмат чарназёму.



### Дзмітрый Мядзведзеў

Прэм'ер Расіі стаў сапраўднай зоркай інтэрнэту. Усё дзякуючы фільму «Гэта вам не Дзімон» пра яго «таямнічую імперыю нерухомасці». Літаральна за шэсць дзён на мінулым тыдні гэтае кіно прагледзелі больш за 7 мільёнаў чалавек.

У сувязі з велізарным рэзанансам шмат хто чакаў, што «Дзімон» асуджаны на адстаўку. Тым больш, што камуністы аператыўна правялі па ўсёй краіне мітынгі за адстаўку прэм'ера-карупцыянера. Аднак у выніку ўсё засталося па-ранейшаму: Мядзведзеў у адстаўку не падаў, а Генпракуратура і Следчы камітэт так і не зацікавіліся нерухомасцю, пра якую распавядае стужка.

У сувязі з гэтым паўстаў пласт канспіралагічных версій. Самая вар'яцкая — кампрамат на Мядзведзева Навальнаму падкінуў… сам Мядзведзеў. Усе даўно чакалі адстаўкі непапулярнага прэм'ера, але фільм яе прадухіліў. Тое, што «Дзімон» захаваў пасаду, таксама звязваюць з выбарамі кіраўніка краіны ў наступным годзе. Для разагрэву электарату перад прэзідэнцкімі выбарамі Пуцін можа адправіць непапулярнага прэм'ера ў адстаўку. У межах развіцця версіі ёсць меркаванне, што Навальны грае ў звязцы з Крамлём, які спецыяльна выдаў яму кампрамат на Мядзведзева. Такога меркавання прытрымліваецца, напрыклад, Рыгор Яўлінскі — лідар апазіцыйнай партыі «Яблоко».

У Гродна 11 сакавіка адышоў у лепшы свет Яўген Петрашэвіч, кампазітар, педагог, паэт, мастак, былы кіраўнік фальклорнага ўзорнага ансамбля «Гарадзенскія дударыкі». Гутарку з ім «Новы Час» публікаваў у 2013 годзе. Мы вырашылі яе надрукаваць яшчэ раз у памяць пра шчырага беларуса і добрага чалавека.

# Яўген Петрашэвіч: «Музыка — маё жыццё»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Мяне заўсёды здзіўляла апантанасць спадара Петрашэвіча жыццём, рухавасць, актыўнасць, цікавасць да жыцця, захапленне музыкай, мастацтвам, літаратурай. А яшчэ Яўген Кастанцінавіч — шчыры беларус, найцікавейшы чалавек, якога я сёння ведаю ў Гродна, бо за свае пражытыя гады ён шмат чаго бачыў, чуў, пабываў у многіх краінах свету.**



У свой час Яўген Петрашэвіч быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Міністэрства культуры СССР і БССР, Вярхоўнага Савета БССР, граматай Першага Усебеларускага фестывалю самадзейнай творчасці працоўных (1975), быў дыпламантам шостага Міжнароднага фестывалю народнай музыкі, уладальнікам дыплома абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны — за цыкл песень-балад на гістарычную тэму на вершы Яна Чачота (Гродзенскі клуб кампазітараў-аматараў). Ён з'яўляецца аўтарам скульптур для літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах, аўтар надмагільных абеліскаў бацькам і роднай сястры, аўтар вакальна-харэаграфічных кампазіцый, музыкі да спектакляў, песень, рамансаў, гімнаў і г.д. Немагчыма пералічыць усяго, што Яўген Канстанцінавіч зрабіў на ніве беларускай літаратуры і мастацтва. Даўно б час яму надаць званне заслужанага дзеяча Рэспублікі Беларусь і ганаровага грамадзяніна горада Гродна.

***— Вы аднойчы сказалі: «Маё крэда — ствараць, але не вытвараць».***

— Ствараць — гэта самае высокае, што дадзена чалавеку, таму да творчасці павінны ставіцца з вялікай адказнасцю. Бо перад самім сабой і перад усімі мы ў адказе, таму «што напісана на паперы, не высечаш і сякерай». А прафесар Д. Камінскі некалі казаў: «Галоўнае — да справы прыставіць драбіну» і яшчэ: «Аўтара б'юць не за тое, што напісаў, а за тое, што паказваў». Кампазітар Юры Семяняка любіў паўтараць: «Паставіць подпіс пад творам — апошняя справа». Такім чынам, з гадамі і вопытам творчы чалавек прыходзіць да скутку, набывае характэрны почырк, накірунак, і ў лепшым выпадку свой твар і самабытнасць. А наконт таго, што сёння вытвараюць, магу сказаць, што чалавек у сутнасці лянівая істота, а кампутарныя тэхналогіі — падобныя да хадуляў, на якіх хутчэй не пабяжыш.

***— Вы родам з вёскі Падбараны Мастоўскага раёна...***

— Мая вёска некалі называлася Падбарамі. Лясы высеклі, і пры Польшчы назвалі Podbozany. А пры саветах — «Подборяны». Беларусы цяпер называюць Падбараны. Такім чынам, назва вёскі выклікае перакошаную грымасу найменняў, але смеху не выклікае, а калі выклікае смех, то праз слёзы. Вёска Падбараны, якая раскінулася на левым беразе Нёмна ўніз на два кіламетры ад мястэчка Лунна, была некалі ажыўленая. Там за польскім часам хадзілі параходы, яны называліся «Баторы», «Ягайла», а ў 1939 годзе, калі прыйшлі Саветы, іх перайменавалі ў «Пушкіна», «Сталіна». Плытагоны нас вучылі рабіць свісцёлкі, свістулькі з бярозавай кары, а турысты, што ад Стоўбцаў плылі, затрымліваліся, каб паслухаць іх свіст. А мы, дзеці, бегалі паслухаць у байдарачнікаў патэфон. З дзяцінства памятаю і ўкраінца Сямёна Крывашэя. Майстра быў на розныя штукі, рабіў цудоўныя куфэркі. Дзякуючы яму я меў магчымасць асвоіць украінскія песні як свае. Вось дзе была мая кансерваторыя!

***— А што вы ведаеце пра свой род?***

— Мая маці Вольга Васільеўна з роду Рамашкаў. Дзед Васіль Рамашка жыў у Амерыцы, быў цырульнікам, а потым меў уласную цырульню. Маці разам з бабуляй Фядорай таксама там былі ў Амерыцы, але вярнулася з-за неспрыяльнага клімату. Бацька Канстанцін Канстанцінавіч Петрашэвіч у Харкаве атрымаў адукацыю і спецыяльнасць кваліфікаванага паштовага служачага. Служыў начальнікам пошты ў Лунне на Мастоўшчыне. У 1939 годзе, з прыходам савецкай улады, яго перавялі на работу ў Гродна, на пасаду галоўнага бухгалтара абласной пошты. Бацька прымаў удзел у конкурсе каліграфічнага напісання і атрымаў другую прэмію, таму што вельмі добра і прыгожа пісаў. Пры польскай уладзе працаваў са сваім старэйшым братам-цесляром згодна з традыцыямі роду.

Бацька меў таксама матэматычныя здольнасці, быў строгім чалавекам і не падзяляў захапленне сына музыкай, гэта быў дзіўны чалавек, з дзіўным лёсам, калісьці іграў на гармоніку, вывучыў па нотах «Ойча наш».

Бацькі мае былі рэпрэсаваныя як агітатар і шпіёнка за ліставанне з матуліным бацькам Васілём і цёткамі Наталкай і Алесяй, якія жылі ў Амерыцы. Бацьку на 15 гадоў, а маці на 25 гадоў адправілі ў высылку. У іх дом пасялілі жыць кэгэбістаў.

Бацька ў Ангарску, а маці ў Архангельску ў Расіі адбылі ў ссылцы па 5 гадоў. Аднойчы Канстанцін Канстанцінавіч убачыў сон, у якім былі лічбы, якія ён потым запісаў на накрыўцы чамадана. Гэтыя лічбы і з'явіліся датай вызвалення бацькоў. Пасля вяртання на Радзіму мама і тата былі рэабілітаваныя. Бацька памёр у 1979 годзе, а маці — у 1976-м.

...У дзяцінстве ў мяне была мянушка «лупаты» за маю асаблівую прыхільнасць да губнога гармоніку. Жалезныя дэталі гэтага інструмента нагадвалі мне фольгу з-пад шакаладу. Калі я іграў, я адчуваў асалоду ад гукаў. У дзіцячым узросце я любіў ствараць аркестры з мясцовай дзятвы, дзе іграў на губным гармоніку. Пазней навучыўся іграць на баяне. Музычнай была наша сям'я. Дзядзька Грыша іграў на гармоніку, прадзед Піліп Мілашэвіч — на скрыпцы, а мая маці Вольга і сёстры Люда і Зіна — спявалі. Людзі прыходзілі іх паслухаць, дзівіліся і плакалі. Гэта асяроддзе народнай музыкі, напэўна, аказала на мяне значны ўплыў.

***— Вы згадалі свайго прадзеда Піліпа Мілашэвіча...***

— Мой прадзед Піліп Мілашэвіч, які іграў на скрыпцы, жыў у Кніжаводцах са сваёй Аўдоцяй-бабуляй. Іграў на вяселлях, вечарынках. Калі вяртаўся з вяселля, тры дні граўшы, яго запынілі хлопцы і змусілі іграць, свістаць і нагой тупаць для сваёй уцехі. «Грай або грошы аддай!» — казалі. Ён іграў і «перайграў» руку, а потым не змог іграць. І аднойчы, калі я ехаў на вяселле ў аўтобусе, іграў на баяне ўсю дарогу. А калі вярталіся з вяселля, п'яная кампанія стала да мяне прыставаць: ірай тое, як мы ехалі на вяселле. Калі ім расказаў здарэнне з прадзедам, то нават п'яныя адчапіліся. Я памятаю прадзеда. Ён прыходзіў да нас у вёску Падбараны ў срэбнай кашулі з сінім-сінім гузічкам, як і яго вочы, садзіў мяне на калені, гладзіў ласкава па галоўцы...

***— У Гродна выйшлі два вашых зборніка вершаў «Пасынкі» і «Віншаванкі». А адкуль такая любоў да літаратуры?***

— Бацька мой Кастусь, бывала, вечарам пры лямпе чытаў нам Біблію або кніжку пра Ірму. І калі трапляўся выраз на рускай мове: «уж настал вечером...», я аж падскокваў і крычаў: «Тата, там уж». А бацька супакойваў і казаў, што гэта слова «ўжо». Слова «ўжо» я разумеў, а слова «уж» мяне палохала.

Аднойчы тата выдаў такія радкі:

*А, Божа ж мой, Божа мой,*
*Да чаго даждаўся...*

А я чуў гэтыя словы, пахадзіў і дабавіў:

*Баба сані прадала,*
*Што з печы спускаўся!*

Стрыечны брат Кастусь мяне таксама вучыў рыфмоўцы:

*Як прыедуць паны па падаткі,*
*Пазбіраюць каровы, цяляткі...*

А вяскоўцы часта спявалі, я запамінаў:

*Ні трэба нічога баяцца,*
*Трымайцеся ўсе грамадой.*
*Як толькі вайна распачнецца,*
*Мы кінемся дружна ў бой...*

Пасля ўсіх гэтых паэтычных «урокаў», я сам спрабаваў і працягваю спрабаваць пісаць вершы, строфы.

Аднойчы прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы выказаў мне сваю падзяку за вершы. Я яму даў тэкст песні «Пра каліну», схематычны варыянт, а ён склаў добрую песню і перадаў кампазітару Ігару Лучанку. Песня гучала нават па радыё. А калі Аляксандр быў у Гродне, я паказаў варыянт гімна Беларусі, які рыхтаваў на конкурс, ён мне трохі дапамог нават знайсці трапныя радкі. Але тады ўсе конкурсныя гімны ў Беларусі не прайшлі, бо паэт Карызна перапрацаваў савецкі гімн, які мы чуем сёння.

Нядаўна па запрашэнні наведаў на Беласточчыне дом Сцяпана Копа. Цікавы і таленавіты ён чалавек. У застоллі мы спявалі беластоцкія і гарадзенскія песні, якімі мы потым абмяняліся. Я Сцяпану падараваў песні сваёй роднай вёскі Падбараны, а ён — некалькі сваіх песень, у тым ліку і «Пакахала беларуса».

Я заўсёды шчыра сябраваў і сябрую з паэтамі. На іх вершы напісаў сотні песень. Пісаў песні на словы Уладзіміра Шурпы, Янкі Насуты, Дануты Бічэль, Ларысы Геніюш, Станіслава Судніка, Міхася Мельніка, Уладзіміра Васько, Пятра Макарэвіча, Апанаса Цыхуна, Міхася Губернатарава, Юркі Голуба, і на твае, Сяргей, вершы.

З цягам часу стаў і сам пісаць тэксты не толькі песень, але і сур'ёзныя вершы. Напісаў «Баладу пра Грунвальд», «Сказ пра Каложу», выдаў кнігі вершаў «Пасынкі» (Гродна, 2012) і «Віншаванкі» (Гродна, 2013). Калегі і сябры мае кажуць, што запозна я пачаў пісаць вершы. А я ў адказ кажу, што зярняты, якія зарадзіліся ў маленстве, прараслі своечасова і, як спелы яблык, упалі на галаву Ньютона...

А яшчэ я з дзяцінства люблю афарызмы. І цяпер у сталым узросце яны не супярэчаць маёй натуры. Бывае ноччу штосьці будзіць, каб запісаць думку ці мелодыю, а калі запішу, то нібы чую: а цяпер можаш спаць.

У студэнцкія гады мяне называлі дзіваком, бо быў я не як усе. А з цягам часу, калі пабывалі мае сябры за мяжой, то казалі, што там усе такія дзівакі. Яшчэ мяне клікалі народным філосафам, а я казаў ім: «філасОф», не, кажуць, «філОсаф».Такім чынам, аналітычнаму мысленню, я лічу, спрыяла ўсё ж музыка і закваска ў маленстве, якая нават вылілася і ў сатырычныя вясёлыя творы, як, напрыклад, «Байкі-непазяхайкі».

***— Вы яшчэ, спадар Яўген, добры мастак, разьбяр...***

— У маленстве мы, падлеткі, рабілі цацкі самі. І гэта спрыяла самавыказванню сваёй фантазіі ў канкрэтных формах. А бацька займаўся цяслярствам і сталяркай. Калі ён пілаваў якую-небудзь дошчачку ці што рабіў, мы ўважліва сачылі, вучыліся. Ён любіў майстраваць параходы, самалёцікі, свісцёлкі. У дарослым узросце, калі бываў у дзіцячых летніках, я майстраваў дзецям з кары розныя фігуркі, скрыначкі з бярosты. Дзеці імі любяць гуляць, але цацкі павінны рабіць усё ж дарослыя. Так я стаў і мастаком. Зрабіў неяк Матку Боскую, якую Алесь Белакоз узяў для свайго Гудзевіцкага музея. Для Гудзевіч я яшчэ высек памятны знак на камяні: Гудзевічы, 1738. З граніту сам зрабіў помнік бацькам. А ў Даніі з драўлянага пню высек вікінга.

***— А адкуль, спадар Яўген, усё жыццё чэрпаеце сілы для творчасці?***

— У маладыя гады аднойчы ў Беластоку набыў кніжку М. Міхальскай «Joga dla wszystkich». І потым часта займаўся стойкай на галаве і іншымі практыкаваннямі. Засвоіў глыбокае дыханне дыяфрагмай (ніжнім дыханнем). І цяпер, калі ў мяне пытаюцца: ці займаешся ёгай, адказваю: ёга цяпер займаецца мной. Вось гэта мая сіла.

***— І ўсё ж музыка ў вас застаецца на першым месцы?***

— Лічу, што людзі падзяляюцца на музыкальных і не музыкальных. Музыка — рэч універсальная. Музыка — маё жыццё. Музыкі я не здраджу ніколі, і яна мне таксама. Запісваю заўсёды не тое, што з галавы выйшла, а тое, што ў галаву ўвайшло.

# Перасадка ў Асіповічах

## Шчырая гутарка з паэткай Настай Кудасавай з нагоды ўганаравання яе прэміяй «Кніга году»

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**Каб даехаць з Рагачова ў Мінск на электрычцы, у Асіповічах трэба рабіць перасадку. Па дарозе ў сталіцу 10 сакавіка Наста Кудасава купіла па чарзе два квіткі. У абодвух было выбіта «месца №1», хоць у электрычцы гэта нічога не значыць: сядай, дзе хочаш. Супадзенне выявілася прарочым. Тым жа вечарам Кудасавай уручылі літаратурную прэмію Беларускага ПЭН-Цэнтру «Кніга году» за зборнік паэзіі «Маё невымаўля».**




Насту Кудасаву натхняюць найлепшыя ўзоры сучаснай рускай паэзіі, але яна так дыхтоўна ўпісвае свае тэксты ў канон беларускай лірыкі, што ёй удаецца выглядаць увасабленнем традыцыі нават з самымі мадэрновымі па сутнасці творамі. Верагодна, амбівалентная паэтыка Кудасавай і ёсць прычынай, па якой яе тэксты адгукаюцца ў людзей з самымі рознымі літаратурнымі густамі.

«Невымаўля» — толькі адно з паэтычных словаў, прыдуманых ёю. «І прыйдзе Бог сняжынкаю на носе» — толькі адна з зорных метафараў. «Свербная нядзеля» — толькі адна са слоўных гульняў. Вершы Кудасавай максімальна насычаныя вобразамі, там няма ніводнага лішняга радка. «Ёсць часы, калі толькі паэзія можа сфармуляваць нейкую больш-менш адэкватную ідэю сучаснасці, паказаць нескажонную актуальную карціну, — сказаў паэт і перакладчык Зміцер Плакс. — Мы жывем у такі час».

Перамога кнігі «Маё невымаўля» адметная яшчэ вось чым. Перамагла сапраўды кніга, а не аўтарка. Многія калегі па пяры ведаюць Насту толькі па яе творах. Яна друкуецца з 2003 года, тады яна вучылася на другім курсе філфаку БДУ. Аўтарка трох паэтычных зборнікаў і колькіх публікацый у часопісах. У апошнія гады выступае на літаратурных вечарынах, але зноў жа — мы чуем вершы, бачым высокую дзяўчыну з сумнымі вачыма — і вось ужо яна знікае, бо адыходзіць электрычка на Асіповічы.

Каб пазнаёміць шырокага чытача з Настай як асобай, мы папрасілі яе крыху панізіць узровень абароны прыватнасці — спецыяльна для «Новага Часу».

***— Наста, пасля ўручэння прэміі, дзякуючы прыхільнікам за падтрымку, ты напісала: «Рагачоў! Так, гэта Рагачоў. Для мяне гэта важна. Я адсюль расту, разгаліноўваюся... Мне б хацелася, каб ён гучаў, жыў, рухаўся, дыхаў. Я буду рабіць для гэтага ўсё, што ў маіх сілах». Раскажы, калі ласка, пра сваю сям'ю і дзяцінства. Ці ёсць гісторыі пра родных або землякоў, якія на цябе паўплывалі?***

— Гэта было цудоўнае дзяцінства. З любімай школай на беразе Дняпра. Тады там яшчэ быў вялікі яблыневы сад, дзе мы заўжды бавілі час малымі. А цяпер ад саду засталося толькі некалькі дрэваў. Затое выраслі два новыя мікраёны. Тым не менш я дагэтуль бачу Рагачоў месцам сілы і натхнення. Казачным, нібы прыснёным, месцам, дзе мой тыл і спакой.

Мае бацькі абодва паходзяць з вёскі Рыскоў Рагачоўскага раёна. Пра сваякоў я мала ведаю. Як і прынята ў беларусаў, тым больш у вясковых, пра свой род далёка ніхто асабліва не памятае. Шкада. Але, безумоўна, гэта важна, што я чалавек зямлі, поля, лесу.

Дзяцінства скончылася, калі загінуў бацька. Мне было 10 гадоў. І магчыма, гэта самая ўплывовая ў маім жыцці гісторыя, якую я дагэтуль не магу да канца асэнсаваць.

***— Адвечнае пытанне: чаму рускае аддзяленне філфаку, але беларуская мова творчасці?***

— Я трапіла на філфак у нейкім сэнсе выпадкова. Любіла мову і літаратуру, заўсёды пісала вершы, гадоў да 14 па-руску, але вучылася я ў матэматычным класе. І кім хачу быць, дакладна не ведала. Але ў мяне была добрая настаўніца рускай мовы і літаратуры, якая мяне заўсёды падтрымлівала і заахвочвала. Таму я часта ўдзельнічала ў алімпіядах па рускай мове, у тым ліку рэспубліканскіх. Праз перамогу ў адной з іх мяне і залічылі на філфак, гэта была прыемная неспадзяванка. Я вырашыла, што гэта лёс. І нікуды ўжо не пайшла паступаць пасля школы, хаця філфак у мае планы і не ўваходзіў. Я была на той час ужо беларускамоўнай. І спачатку думала, што гэта будзе мне замінаць на рускай філалогіі. Але потым зразумела, што гэта глупства. Гаварыць і пісаць можна на любой мове, абы чалавекам быць. Затое дзякуючы менавіта рускаму аддзяленню філфака я мела магчымасць слухаць лекцыі Галіны Веніямінаўны Сінілы. Часам я думаю, што толькі дзеля аднаго гэтага чалавека варта было прыйсці туды вучыцца і стаць тым, кім я стала. Хаця, безумоўна, на філфаку былі і іншыя выдатныя выкладчыкі, якія мне запалі ў сэрца.




***— Якія аўтары для цябе важныя?***

Пакуль вучылася на філфаку, яны штосеместр мяняліся, ясная справа. Але з асноўных... Мой першы любімы паэт — Марына Цвятаева, яна найбольш паўплывала на мяне, факт. З беларускіх паэтаў у школе я любіла Яўгенію Янішчыц, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Сыса. Пазней ужо адкрыла для сябе Алеся Разанава. Яшчэ ў школе з часопіса «Студэнцкая думка» я даведалася пра існаванне Віктара Жыбуля. І калі, прыехаўшы вучыцца ў Мінск, мы з сяброўкай на першым курсе аднойчы ўбачылі яго на калідоры інтэрнату, то, помню, шапталі адна адной у свяшчэнным трапятанні: «Глядзі, гэта ЁН, ЁН!» Цяпер гэта ўзгадваю з усмешкай, ужо 16 гадоў мінула, але я і сёння лічу яго адным з найбольш уплывовых беларускіх літаратараў.

На фармаванне маёй мовы паўплываў у пэўны час Саша Башлачоў, гэта мой паэт нумар два пасля Цвятаевай, і ўвогуле рускі рок канца васмідзясятых, асабліва Ягор Летаў і Янка Дзягілева. Без іх я была б не зусім я.

Трэці з «маіх», напэўна, Веніямін Блажэнны, ён крыху мяне вярнуў з мітусні да простых чалавечых пытанняў. Здаецца, пасля яго я і зразумела, што не хачу больш займацца літаратуразнаўствам, а хачу быць звычайным чытачом вершаў.

Цяпер таксама перыядычна трапляю на родных і «маіх», адкрываю для сябе кагосьці... Леанід Аранзон з такіх вось маіх, Сяргей Шастакоў, Вера Паўлава. Ды многа хто. Паэзію я чытаю ўвесь час, усіх не пералічыш, прозу рэдка.

***— Аднойчы ты сказала, што з чатырохгадовым сынам табе цікавей размаўляць, чым з дарослымі. Гэтае адчуванне захавалася дагэтуль? Раскажы пра сваіх дзяцей.***

— Я заўсёды марыла стаць мамай. Помню, як у гадоў недзе 11–12 даведалася, адкуль дзеці бяруцца. І мяне так уразіў гэты працэс! Гэта ж цуд! І каханне, і сэксуальныя стасункі, потым цуд з'яўлення маленькага чалавечка ў жываце... Ну як такое можна было прыдумаць? У Госпада неверагодная фантазія! Гэта вельмі прыгожа. Я і дагэтуль думаю, што гэта цуд. І на дзяцей гляджу як на штосьці чароўнае. Вось яны — два маленькіх чалавечкі прыйшлі ў гэты свет праз мяне, мне даверылі такую адказнасць... Ганарыся страшэнна. Але і перажываю часта, ці атрымліваецца ў мяне.

З дзецьмі, безумоўна, цікавей, чым з дарослымі. З любой іх фразы ці нават славаформы можаш злавіць кайф адкрыцця ўсіх сэнсаў жыцця, у самых нечаканых сітуацыях. У дарослых ужо і мова, і думкі папсаваныя сістэмнасцю, штампамі. Да таго ж дарослыя часта хлусяць, асабліва самі сабе. Дзецям гэта пакуль складана. Яны могуць сабе дазволіць быць непасрэднымі і не лічыцца пры гэтым вар'ятамі. Часам мне падаецца, што я таксама не вельмі дарослая, мо таму і жыву так, як жыву.

***— Магчыма, не вельмі простае пытанне. Ты развіталася з мужам. Можаш пра гэта нешта расказаць?***

— Мне не вельмі хочацца распавядаць пра асабістае жыццё. Яно сумнае. З мужам мы так і не змаглі жыць разам, колькі ні спрабавалі. Магу сказаць толькі, што ўжо два гады я жыву ў Рагачове з мамай і маімі дзецьмі — Ягорам і Машай. Штосьці зарабляць на жыццё атрымліваецца спарадычна. Дзякаваць Богу, пакуль праца сама мяне знаходзіць. У нейкі момант я адчула, што не пісаць не магу. І ўсё роўна буду. А мне ж трэба дзяцей карміць. Я ўжо не магу сабе дазволіць такое хобі. Толькі працу. Таму і над апошняй кнігай я вырашыла менавіта працаваць, старанна, адклаўшы ўсё, спадзеючыся на цуд. Гэта быў мой выклік самой сабе, праверка. Цяпер я ведаю, што выжыву. І яшчэ за гэтыя два гады я навучылася радавацца самым простым рэчам — таму, што дзеці не хварэюць, таму, што родныя і блізкія — жывыя і здаровыя. І навучылася быць адна і цаніць сваю адзіноту. Таму хочацца верыць, што ўсё толькі пачынаецца. А пераменаў я ніколі не баялася, яны мяне толькі натхняюць.

**Фота Алены Казловай**

### Прэмія «Кніга году»

Прэмія «Кніга году» ўручаецца з 2014 года і задумвалася арганізатарамі як экспертная, прафесійная прэмія. Гэта значыць, у яе журы можа ўвайсці неабмежаваная колькасць сябраў. Крытэр удзелу адзін — цягам апошніх 7 гадоў у пісьменніка або перакладчыка мусіла выйсці кніга ў жанрах «мастацкая проза», «нон-фікшн», «паэзія» або «эсэістыка». На ўдзел у прэміі могуць прэтэндаваць кнігі ў гэтых жа жанрах. У спрэчных выпадках — гаворыцца ў Правілах прэміі, — жанр вызначаецца аргкамітэтам.

У 2015 годзе, у «пілотным» выпуску прэміі, выбіралі кнігі ў некалькіх намінацыях. Пераможцамі за 2014 год зрабіліся Альгерд Бахарэвіч з кнігай «Дзеці Аліндаркі», Антон Рудак з кнігай «Верхні горад», Вольга Гапеева з кнігай «Сумны суп» і Людміла Рублеўская з кнігай «Авантуры студыёзуса Вырвіча». Пасля ўручэння адбылася дыскусія, якая дапамагла скарэктаваць фармат прэміі. У 2016 годзе прэмію атрымаў Андрэй Хадановіч з кнігай «Нататкі таткі». У 2017 годзе ў прэміі ўпершыню з'явіўся прызавы фонд — 1000 еўра. Сёлета таксама ўпершыню вызначалі пры чытацкіх сімпатый (з дапамогай формы на сайце kniha.of.by). Абсалютную перамогу ў народным галасаванні здабыла кніга «Радзіва Прудок» Андруся Горвата.



Вуліца Замкавая, 1920-я гады



Месца скверу на вуліцы Замкавай зараз



«Дом Рыбака» XVI ст., знесены Саветамі, стаяў на гэтым адрэзку

# Чарговы ўдар па мурах старадаўняй Гарадні

**На вуліцы Замкавай за палацам Тэкстыльшчыкаў можа паўстаць офісны будынак, які знявечыць выгляд гістарычнага цэнтру. Незразумелай таксама застаецца сітуацыя з археалагічнымі раскопкамі напярэдадні будаўніцтва.**




Месца скверу на мапе



Так выглядала месца сучаснага скверу на пачатку XX ст.

Вуліца Замкавая ў Гродне, якая вядзе ад Фарнага касцёлу да Старога і Новага замкаў, традыцыйна лічыцца архітэктурнай пярлінай горада. Гэта адна з нешматлікіх вуліц, якая захавала не толькі гістарычную назву, але і твар: старыя камяніцы, якія памятаюць яшчэ часы Рэчы Паспалітай.

### Сціплы кошт за зямлю ў элітным месцы

Некаторыя будынкі на Замкавай былі разбураныя ўжо ў паваенны час. Тут жа паўсталі і савецкія «пачвары»: Палац тэкстыльшчыкаў ды Дом быту, якія аніяк не ўпісваліся ў гістарычны ландшафт. Некаторыя месцы так і засталіся пусткамі пасля зносу фрагментаў старой забудовы. Адну з такіх пустак зараз хочуць выкарыстаць для будаўніцтва... трохпавярховага бізнэс-цэнтру з мансардай.

Будынак на месцы пусткі, як апынулася, быў пазначаны на мапах генплану горада яшчэ ў 2005 годзе. Да практычнай часткі — продажу зямлі — у мясцовай улады рукі дайшлі толькі зараз. Аўкцыён па продажы быў прызначаны сёлета на 14 лютага. Кошт дзялянкі ў самым цэнтры старога Гродна апынуўся надзвычай сціплым: каля 120 000 рублёў, або 60 тысяч у.а. Інвестарам выступіў літоўскі бок.

### Гістарычны ландшафт ды археалогія

Сапраўды, месца для вядзення бізнэсу ідэальнае, але што

> **Зямля на гэтым месцы будзе наўпрост нашпігаваная гістарычнымі артэфактамі, фундаментамі ды скляпеннямі камяніцаў, якія тут стаялі ад часоў ВКЛ. Каб раскапаць усю пляцоўку, спецыялістам спатрэбіцца, магчыма, і не адзін археалагічны сезон**

наконт гістарычнага і турыстычнага фону горада? Па-першае, гісторыкі заклапочаныя, што будынак бізнэс-цэнтру па сваіх архітэктурных якасцях можа апынуцца яшчэ горшым за Палац тэкстыльшчыкаў ды Дом быту. У ідэале, кавалак зямлі нядрэнна было б забудаваць, але будынкамі, якія б падкрэслівалі гістарычную канву месца. Тым больш, што фотаздымкі гэтай часткі Замкавай вуліцы пачатку XX стагоддзя выдатна захаваліся.

Па-другое, зямля на гэтым месцы будзе наўпрост нашпігаваная гістарычнымі артэфактамі, фундаментамі ды скляпеннямі камяніцаў, якія тут стаялі ад часоў ВКЛ. Каб раскапаць усю пляцоўку, спецыялістам спатрэбіцца, магчыма, і не адзін археалагічны сезон...

І тут ёсць два варыянты. Варыянт першы: інвестар яшчэ не ведае пра неабходнасць археалагічных даследаванняў, для яго гэта будзе цікавым сюрпрызам. Варыянт другі: у інвестара ўсё ўжо дамоўлена і з гарвыканкамам, і з археолагамі, якія створаць бачнасць даследаванняў, як гэта было на Савецкай плошчы падчас «рэканструкцыі» 2005–2007 гадоў. То бок яшчэ адзін пласт нашай гісторыі будзе вывезены разам з зямлёй на сметніцу.

### «Блышынага рынку» не будзе?

Стаўленне гродзенцаў да ініцыятывы гарвыканкама (па некаторых звестках, ініцыятар — галоўны архітэктар горада **Генадзь Таламанаў**) адназначна негатыўнае. У гэтым можна пераканацца, пачытаўшы безліч каментараў пад артыкулам пра будоўлю на найбольш папулярным у горадзе блогу s13.ru. Салідарныя тут і гісторыкі: Вашкевіч, Лапеха, Супрон ды іншыя ўжо выказаліся супраць у каментарах розным СМІ.

У дадатак да ўсяго, на месцы скверу яшчэ ў мінулым годзе планавалася дазволіць стварыць адзіны ў горадзе «блышыны рынак», які б працаваў па выходных днях. Улічваючы разлік на прыцягненне польскіх ды літоўскіх турыстаў — крок цалкам апраўданы і перспектыўны. Але выглядае на тое, што чарговая добрая ідэя так і застанецца ідэяй, а паўстанне навабуду сярод сівых камяніцаў стане куды больш рэальнай перспектывай.


## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» пакуль немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанаваць у рэдакцыю (+375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. **УНП 190790926**

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**


Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 257

Падпісана да друку 17.03.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.